# Голас Радзімы

№ 25 (2011)
18 чэрвеня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




**Усмешка. Яна так падыходзіць да кожнага дзіцячага тварыка! А якое задавальненне для маці, бацькі, калі іх сын ці дачка растуць шчаслівымі. І таму будуюцца і будуюцца ў Савецкай краіне новыя ўтульныя дзіцячыя сады, светлыя, прасторныя школы, шматлікія загарадныя піянерскія лагеры для адпачынку ў час канікулаў, спартыўныя збудаванні, Дамы і Палацы культуры...**

**«Усмешка» — назва ансамбля бальнага танца, арганізаванага для дзяцей на вытворчым аб'яднанні «Інтэграл» у сталіцы Беларусі. Сярод яго ўдзельнікаў і сёстры ПРАХАРЭНКА, дзяўчынкі з вечнымі на нашай зямлі імёнамі — Вера, Надзея, Любоў. Іх вы бачыце на здымку.**

**Фота Ю. ЗАХАРАВА.**

ВІЗІТЫ

## НАМЕСНІК ГЕНЕРАЛЬНАГА САКРАТАРА ААН У МІНСКУ

З 6 па 8 чэрвеня ў Мінску знаходзіўся намеснік генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'яднаных Нацый М. Ахцісаары з жонкай. Ён быў прыняты міністрам замежных спраў БССР А. Гурыновічам. У час сустрэчы былі абмеркаваны пытанні адміністрацыйнай дзейнасці ААН, а таксама кадравага прадстаўніцтва рэспублікі ў яе сакратарыяце.

У час знаходжання госці азнаёміліся са славутымі мясцінамі сталіцы Беларусі, наведалі мемарыяльны комплекс «Хатынь», дзе ўсклалі кветкі да Вечнага агню. У кнізе ганаровых наведвальнікаў намеснік генеральнага сакратара ААН зрабіў наступны запіс: «Няхай як мага больш людзей даведаюцца аб Хатыні з тым, каб трагедыя, якая напаткала яе жыхароў, ніколі не паўтарылася».

## САВЕЦКІЯ ПАРЛАМЕНТАРЫІ Ў ІНДАНЕЗІІ

У Інданезіі з афіцыйным візітам пабывала дэлегацыя Вярхоўнага Савета СССР на чале з намеснікам Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Г. Таразевічам.

Савецкія парламентарыі наведалі Савет народных прадстаўнікоў Інданезіі, дзе былі прыняты яго спікерам Амірам Махмудам.

Кіраўнік савецкай дэлегацыі падзякаваў за запрашэнне наведаць Інданезію, пажадаў міру і працвітання інданезійскаму народу. Кантакты паміж парламентамі дзвюх краін, сказаў ён, прынялі рэгулярны характар і ўносяць важкі ўклад ва ўмацаванне адносін паміж СССР і Інданезіяй.

Ад імя Вярхоўнага Савета СССР дэлегацыі Савета народных прадстаўнікоў перададзена запрашэнне наведаць Савецкі Саюз. Амір Махмуд выказаў падзяку за запрашэнне.

У ходзе гутаркі членаў дэлегацыі з міністрам замежных спраў Інданезіі М. Кусумаатмаджам былі абмеркаваны пытанні сучаснай міжнароднай абстаноўкі. Адзначалася блізкасць пазіцый СССР і Інданезіі па ключавых праблемах барацьбы супраць гонкі ўзбраенняў, за забеспячэнне міру і бяспекі, у тым ліку ў Азіяцка-Ціхаакіянскім рэгіёне.

Адбылася таксама сустрэча з міністрам гандлю Р. Салехам, у ходзе якой былі абмеркаваны пытанні развіцця і ўдасканалення гандлёва-эканамічных сувязей паміж СССР і Інданезіяй. З абодвух бакоў выказаны намер зрабіць дадатковыя намаганні для іх далейшага плённага развіцця на ўзаемавыгаднай аснове.

## ЗНАХОДЖАННЕ ПАСЛА ГДР

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі ў Савецкім Саюзе Г. Кеніг, які пабываў у Мінску, меў сустрэчы з першым сакратаром ЦК Кампартыі Беларусі Я. Сакаловым, Старшынёй Савета Міністраў БССР М. Кавалёвым, намеснікам Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі У. Мікулічам, міністрам замежных спраў рэспублікі А. Гурыновічам.

Адбыліся гутаркі, якія прайшлі ў цёплай, таварыскай абстаноўцы.

У час знаходжання ў Мінску пасол пазнаёміўся з горадам, наведаў памятныя мясціны беларускай сталіцы.

ГОСЦІ З-ЗА МЯЖЫ

## ДЭЛЕГАЦЫЯ КАМУНІСТАЎ ЛЮКСЕМБУРГА

На працягу трох дзён у Мінску знаходзілася дэлегацыя Камуністычнай партыі Люксембурга, якая наведала Савецкі Саюз па запрашэнню ЦК КПСС.

Дэлегацыя была прынята ў Мінскім абласным камітэце Кампартыі Беларусі, Беларускім рэспубліканскім савеце прафсаюзаў.

Госці наведалі Мінскі завод аўтаматычных ліній, дзе азнаёміліся з умовамі працы станкабудаўнікоў, арганізацыяй іх вольнага часу і адпачынку. У парткоме прадпрыемства адбылася гутарка аб ролі і правах працоўнага калектыву ў кіраванні вытворчасцю.

Члены дэлегацыі сустрэліся з выкладчыкамі і слухачамі Мінскай вышэйшай партыйнай школы.

Госці пабывалі ў Доме-музеі I з'езда РСДРП, Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, зрабілі п[illegible]ку на мемарыяльны комплекс «Х[illegible]ь» і Курган Славы.

СЕЛЬСКІЯ НАВІНЫ



Адна са спецыялізацый калгаса імя Леніна, што ў Шчучынскім раёне Гродзенскай вобласці, — малочная жывёлагадоўля. За апошнія паўгода надоі малака ад кожнай каровы выраслі тут на паўтары сотні кілаграмаў.

НА ЗДЫМКУ: загадчыца фермы Соф'я ШАГУН і галоўны заатэхнік калгаса Ян ТАРАСЕВІЧ.

ГАРАДСКІ ТРАНСПАРТ

## КАМП'ЮТЭР ДАПАМА[illegible]АЕ ТРАМВАЮ

Многія мінчане, якія карыстаюцца паслугамі гарадскога электратранспарту, заўважылі перамены ў яго рабоце: не стала пакутных чаканняў на прыпынках, амаль зніклі цесната і іншыя нязручнасці, якія ўзнікалі ў гадзіны пік. Трамвайна-тралейбуснае ўпраўленне Мінска адным з першых у краіне даверыла рабіць расклад руху транспарта электронна-вылічальнай машыне.

5—10 дзён займала раней складанне графіка толькі аднаго маршрута. А ўсяго такіх маршрутаў 67. Кожны дзень на вуліцы сталіцы выходзяць 760 тралейбусаў і 182 трамваі, якія перавозяць больш за мільён пасажыраў. Паспрабуйце зрабіць аптымальны расклад руху... Цяпер жа з дапамогай камп'ютэра на гэта ідзе паўтара гадзіны.

НОВЫЯ ВЫРАБЫ

## РАДЫЁМАЯК «ПОШУК»

З любой кропкі зямнога шара могуць падаць вестку з просьбай аб дапамозе радыёмаякі «Пошук», выпуск якіх асвоены ў Оршы на заводзе «Чырвоны Кастрычнік». Яны прызначаны для ўключэння ў аварыйна-выратавальныя сістэмы самых розных транспартных сродкаў—ад марскіх суднаў да легкавога аўтамабіля.

Канструкцыя радыёмаякоў новага пакалення такая, што яны сапраўды і ў агні не гараць, і ў вадзе не тонуць. Персанальны назыўны атрымалі «Пошукі» і ў міжнароднай спадарожнікавай сістэме апавяшчэння КОСПАС—САРСАТ.

СТАНКАБУДАВАННЕ

## ПЕРСПЕКТЫЎНАЯ МАДЭЛЬ

Нават вопытныя майстры не змаглі знайсці дэфектаў у дэталях, якія выдаў першы такарны апрацоўчы цэнтр, сканструяваны і выраблены на Гомельскім заводзе станочных вузлоў. Па зададзенай праграме ён можа выконваць такарна-разьбовыя, свідравальныя, фрэзерныя, каардынатныя і нават гравіравальныя аперацыі. Агрэгат, аналагаў якому няма ў сусветнай практыцы станкабудавання, замяняе пяць-шэсць універсальных станкоў, вызваляе чатырох рабочых. А калі яго аснасціць сродкамі загрузкі і кантролю за тэхналагічнымі працэсамі, што плануюць зрабіць гомельскія канструктары, то апрацоўчы цэнтр ператворыцца ў гібкі вытворчы модуль.

МАЛАДЗЁЖНАЕ КАФЭ



«Вячоркі» — так называецца новае маладзёжнае відэакафэ, якое адкрылася ў горадзе Светлагорску. З ініцыятывай яго стварэння выступіў гарадскі клуб аматараў мастацтва «Арфей». На сродкі, заробленыя моладдзю горада на суботніках, была набыта частка абсталявання, відэамагнітафон, 4 каляровыя маніторы, выдатны музычны цэнтр, святламузыка. У кафэ вялікі выбар безалкагольных віктэйляў, марожанае, кава, цукеркі. Штодзённа тут праводзяцца вечары адпачынку, на якіх можна паглядзець новыя відэапраграмы, патанцаваць ці проста паслухаць музыку. Пры кафэ створаны клубы паклоннікаў джаза і рок-музыкі, аматараў фантастыкі і кіно.

А днём сюды прыходзяць дзеці з бацькамі. Яны з задавальненнем глядзяць тут мультпраграмы, ласуюцца пірожнымі, марожаным, сокам.

НА ЗДЫМКУ: бармэн Андрэй БЕЛКІН гарантуе выдатны сервіс.

БУДУЕЦЦА МЕТРО

## У ГЛЫБІНЮ ВЯКОЎ

У няпростае «падарожжа» па гістарычных мясцінах старажытнага горада адправіліся метрабудаўцы Мінска. На ўчастку другой лініі магістралі—Фрунзенская—Няміга—Янкі Купалы—яны пачалі работы па пракладцы перагонных тунеляў, якія пройдуць пад будынкамі, узведзенымі ў дзевятнаццатым стагоддзі.

Праходка ў зоне старой гарадской забудовы—справа няпростая. Перш чым пачаць яе, неабходна выканаць шэраг важных падрыхтоўчых мерапрыемстваў. Адно з іх—хімічнае замацаванне грунтаў. Дзякуючы яму пяскі, на якія абапіраюцца фундаменты шэрагу будынкаў, стануць маналітнымі, падобнымі да скальнай пароды. Гэта выключыць вібрацыю, абрушэнне дазволіць весці работы без рызыкі прычыніць шкоду будынкам, якія ўяўляюць гістарычную каштоўнасць.

МЕЛІЯРАЦЫЯ

## ГАРАНТУЮЦЬ УРАДЖАЙ

Надзейны водны рэзерв для палёў ствараюць меліяратары Брэсцкай вобласці. Пачалося запаўненне новага Собельскага возера, якое зможа «напаіць» амаль 13 тысяч гектараў ворных угоддзяў, лугоў і пашаў, у тым ліку каля пяці тысяч гектараў у нядаўна створаным саўгасе «XXV з'езд КПСС» Лунінецкага раёна.

Характэрная асаблівасць меліярацыі на Палессі—будаўніцтва буйных асушальна-ўвільгатняльных сістэм з двухбаковым рэгуляваннем глебавага рэжыму. Каб не парушылася экалагічная раўнавага, ствараюць буйныя вадасховішчы, сажалкі-рэгулятары. Гэта дае магчымасць рацыянальна распараджацца прыродным багаццем. Дадатковае ўвільгатненне асушаных зямель гарантуе прыбаўку да дзесяці цэнтнераў збожжа з гектара.

ВЫСТАЎКІ

## РАСКАЗВАЮЦЬ ФОТАРЭПАРЦЁРЫ

Клопат сельскіх працаўнікоў і гараджан, дапамога пацярпеўшым ад засухі жыхарам Эфіопіі і спартыўныя страсці, армейскія будні і фрагменты эстрадных шоу—усё гэта сюжэты фотавыстаўкі, арганізаванай Саюзам журналістаў БССР, Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі і Генеральным консульствам ПНР у Мінску. Яна разгорнута ў сталічных кінатэатрах «Масква» і «Вільнюс». У экспазіцыі прадстаўлена больш трохсот работ адзінаццаці польскіх фотарэпарцёраў. Розныя па тэматыцы, жанрах, яны даюць шырокае ўяўленне аб працы і адпачынку, буднях і святах, трывогах і захапленнях, якімі жыве польскі народ.

ТРАДЫЦЫЙНАЕ СВЯТА

## У ВЯЗЫНКУ, ДА КУПАЛЫ

Дзесяты раз на легендарнай зямлі Янкі Купалы ў Вязынцы сабраліся на традыцыйны злёт студэнты і выкладчыкі філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.

Вялікай і насычанай аказалася праграма злёту: тут і віншаванні ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, выступленні гасцей—беларускіх паэтаў і літаратараў. І вядома ж, усіх гасцінна запрашала Паўлінка—любімы персанаж Купалавай п'есы, урывак з якой ля ўваходу ў дом паэта паказалі ўдзельнікі драматычнага аб'яднання «Лятуценнік». Своеасаблівай справаздачай каля помніка Купалу стаў «Час паэзіі».

На кожным злёце студэнтаў-філолагаў, апрача традыцыйнага, ёсць і новае, часам нечаканае. Сюрпрызам для многіх аказаўся конкурс беларускіх пірагоў.

ПАМЯТНЫЯ МЯСЦІНЫ

## ЗАШУМЯЦЬ ЛЯСЫ

Закладку новых лясных масіваў завяршылі лесаводы беларускага Палесся.

Рукатворныя дубровы, сасновыя і бярозавыя гаі, кедравікі створаны непадалёку ад населеных пунктаў, у месцах памятных падзей—мітынгаў і маніфестацый рабочых, сялянскіх і салдацкіх мас у падтрымку Савецкай улады.

З часам пасадкі ператворацца ў народныя паркі агульнай плошчай каля трох тысяч гектараў.



**«ЗВЫЧАЙНА З «КАСТРЫЧНІЦКІМІ ДНЯМІ» ЗВЯЗВАЮЦЬ ПАДЗЕІ Ў ПЕТРАГРАДЗЕ І МАСКВЕ, І ЗУСІМ ЗАБЫВАЕЦЦА ТРЭЦІ ЦЭНТР, НАЙБОЛЬШ ГРОЗНЫ І НАЙБОЛЬШ НЕБЯСПЕЧНЫ, ЦЭНТР ШМАТМІЛЬЁННАЙ АРМІІ. ГЭТЫ ЦЭНТР ЗНАХОДЗІЎСЯ Ў МАГІЛЁВЕ».**

**М. АЛЬМІНСКІ.**

# МАГІЛЁЎ: ПРАЦЯГ ВАРТЫ ПАЧАТКУ

## СВЕДЧАЦЬ ГІСТОРЫКІ І ЖЫВЫЯ ЎДЗЕЛЬНІКІ

Кастрычнік 1917-га. У дзень перамогі пралетарскай рэвалюцыі ў Петраградзе была абвешчана Савецкая ўлада ў Мінску. Услед за ім — у іншых гарадах Беларусі. Практычна ўся тэрыторыя краю стала савецкай. Заставаўся толькі Магілёў — губернскі горад, дзе размяшчалася Стаўка Вярхоўнага камандавання, дзе сыходзіліся ніці кіравання расійскай арміяй, якая чацвёрты год разам з саюзнікамі ваявала супраць Германіі.

Спадзеючыся ўзяць рэванш, сюды, пад крыло генерала Духоніна, які не прызнаў уладу Савета Народных Камісараў і адмовіўся выканаць загад Леніна распачаць з немцамі перагаворы аб перамір'і, збіраліся лідэры контррэвалюцыі. У працівагу СНК у Стаўцы пачалася падрыхтоўка да фарміравання контррэвалюцыйнага ўрада на чале з эсэрам Чарновым. Магілёў павінен быў стаць «другім Версалем», адкуль меркавалася ўдарыць сіламі арміі па Петраграду і Маскве і задушыць рэвалюцыю.

Наступныя падзеі падрабязна адлюстраваны гісторыкамі — па днях і нават па гадзінах. Праз дзесяць-дваццаць год мы зможам звярнуцца толькі да гэтых кніг-дакументаў. Сёння ж у нас яшчэ ёсць магчымасць зверыць напісанае са сведчаннямі жывых людзей, якія былі актыўнымі ўдзельнікамі тых падзей. Іх засталося зусім мала, магчыма, некалькі чалавек. Мне ўдалося адшукаць аднаго.

Мітрафану Панасевічу без двух гадоў дзевяноста. Мы сустрэліся ў Мінску, у яго невялікай кватэры на вуліцы Горкага. На наступны дзень Мітрафан Тарасавіч ад'язджаў у Ленінград, горад сваёй маладосці. Ветэрана запрашалі на сустрэчу з рабочымі завода «Арсенал», на якім семдзесят гадоў назад ён пачынаў сваю працоўную біяграфію.

Ён, сын беднага селяніна з вёскі Сідаровічы, што пад Магілёвам, прыехаў у Піцер у лютым семнаццатага года і па рэкамендацыі свайго дзядзькі — балтыйскага марака паступіў чорнарабочым на «Арсенал». За два месяцы да кастрычніцкіх падзей Панасевіч запісаўся ў атрад Чырвонай гвардыі. У дзень узброенага паўстання арсенальцам была пастаўлена задача захапіць і ўтрымліваць мост, які адкрываў дарогу да Зімняга палаца. Мост яны ўтрымалі.

Якім жа чынам Панасевіч зноў трапіў у Магілёў? Мітрафан Тарасавіч расказвае:

— За непадпарадкаванне загадам Савета Народных Камісараў генерал Духонін быў зняты з паста галоўнакамандуючага. Новым Вярхоўным галоўнакамандуючым Ленін прызначыў прапаршчыка Мікалая Крыленку, народнага камісара, члена Камітэта па ваенна-марскіх справах. Для ліквідацыі контррэвалюцыйнай Стаўкі ў Петраградзе тэрмінова фарміраваўся зводны чырвонагвардзейскі атрад. Набіралі добраахвотнікаў. Вызваўся і я. 16 лістапада мы выехалі эшалонамі на Магілёў. Туды ж кіраваліся дзве групы войск з Заходняга фронта, рэвалюцыйныя атрады з Мінска, Гомеля, Віцебска, Оршы, Жлобіна і іншых гарадоў Беларусі. Але мы ведалі, што Стаўка мае намнога большыя сілы...

На наступны дзень у Магілёве стала вядома пра набліжэнне рэвалюцыйных атрадаў. Каб не дапусціць кровапраліцця, бальшавікі актывізавалі дзейнасць у вайсковых часцях гарнізона. Рэвалюцыйна настроеныя салдаты перавыбралі дэпутатаў у Магілёўскі Савет, дзе дагэтуль пераважалі эсэры, меншавікі і бундаўцы, якія былі, па сутнасці, заадно з Духоніным і кампаніяй. 18 лістапада Савет прыняў прапанаваную бальшавікамі рэзалюцыю аб падтрымцы новай улады і выбраў Ваенна-рэвалюцыйны камітэт. Раніцай наступнага дня рэўком аб'явіў сябе вышэйшай уладай у Магілёве і яго наваколлі і ўстанавіў кантроль над Стаўкай.



**Мітрафан ПАНАСЕВІЧ.**

А што ж Духонін? Калі генерал зразумеў небяспечнасць сітуацыі, зрабіць што-небудзь ён быў ужо не здольны: практычна ўся армія перайшла на бок рэвалюцыі. Асобныя ж часці, на падтрымку якіх Духонін мог у пэўнай ступені разлічваць, напярэдадні былі выведзены з горада начальнікам гарнізона генералам М. Бонч-Бруевічам (брат У. Бонч-Бруевіча, бліжэйшага паплечніка Леніна).

— 20 лістапада мы ўступілі ў Магілёў без бою,— успамінае М. Панасевіч.— Зрэшты, наша прысутнасць тут была ўжо непатрэбна: парадак у горадзе падтрымлівалі рэвалюцыйныя часці гарнізона. Стаўку акружылі салдаты з'агітаванага бальшавікамі Георгіеўскага батальёна, тыя самыя «ўдарнікі», з дапамогай якіх Духонін, зразумеўшы, што прайграў, збіраўся рвануць у Кіеў услед за эсэра-меншавіцкімі верхаводамі. Дзіўна ўсё ж, на што разлічвалі яны, гэтыя «прэм'еры» і міністры без партфеляў. Якімі авантурыстамі трэба быць, каб, не знайшоўшы падтрымкі нават у арміі, яшчэ на нешта спадзявацца...

## ПУБЛІЧНАСЦЬ— ПРЫКМЕТА ДНЯ

Вуліца Ленінская, вуліца Крыленкі, плошча Савецкая... Назвы такія дадзены невыпадкова. У гэтым раёне старой часткі Магілёва ўласна і быў цэнтр тых падзей, пра якія мы расказалі ў гістарычным экскурсе. Захавалася, праўда, далёка не ўсё. Працэнтаў на семдзесят горад быў разбураны ў час другой сусветнай вайны. Тры гады ён знаходзіўся пад фашысцкай акупацыяй.

Але нешта ўсё ж збераглося, дайшло да нашых дзён. Сёння гэтым будынкам спрабуюць надаць той выгляд, які мелі яны на пачатку стагоддзя. Буйнамаштабная рэстаўрацыя пачнецца з вуліцы Ленінскай. Старая яе частка ўжо закрыта для руху транспарту і пэўна, назаўсёды. Пасля рэканструкцыі тут маркуецца адкрыць дзесяткі невялікіх магазінчыкаў, кафэ, клубаў і аддаць вуліцу ў поўную ўладу пешаходам. Магіляўчане, безумоўна, вітаюць гэта і нават прапануюць свае сілы ў дапамогу будаўнікам і рэстаўратарам. Некаторыя, праўда, ставяцца да праекта з пэўнай скептычнасцю, як і да таго, што ўрэшце будзе адноўлены касцёл XVIII стагоддзя і ў ім адкрыецца арганная зала. І гэты скепсіс вырас не на пустым месцы — занадта многа, відаць, было раней абяцанняў, якія так і засталіся ўсяго толькі словамі.

Але я заўважыў і іншае. Гэта ўзрослая мера адказнасці за сказанае слова. Ні адзін кіраўнік, які выступае ад імя гарадскіх улад, не стане сёння абяцаць таго, што загадзя вядома: выканаць не ўдасца. Калі, напрыклад, няма зараз сродкаў для пабудовы падземнага перахода на перакрыжаванні галоўных магістралей горада — вуліцы Першамайскай і праспекта Міру, значыць так і гавbooрыцца: прыйдзецца чакаць. Тое ж самае тычыцца і праблемы абмялення Дняпра — не раней, чым праз два гады пачнецца будаўніцтва плаціны, якая павінна ўзняць узровень вады ў рацэ самае малое на паўтара метра.

Зрэшты, гэтая плаціна выглядае кропляй у моры ў параўнанні з іншымі праблемамі горада (пра гэта мы яшчэ будзем гаварыць). І магіляўчан, натуральна, хвалюе, калі і якім чынам іх збіраюцца вырашаць. Прычым, інфармацыю, адказ на сваё пытанне чалавек хоча атрымаць з першых рук. Такое жаданне было, напэўна, заўсёды. Іншая справа, што не заўсёды лёгка было яго рэалізаваць. Сёння стала прасцей. Кіраўнікі горада цяпер часцей бываюць на людзях.

Сустрэчы, якія атрымалі назву «Дзень адкрытага пісьма», наладжваюцца, як правіла, на прамысловых прадпрыемствах. Пра іх паведамляецца загадзя, і кожны можа пісьмова альбо ў вуснай форме задаць пытанне, асабістае ці якое датычыць многіх, ананімна ці падпісаўшыся.

Я чытаў стэнаграму такой сустрэчы, якая адбылася нядаўна на ліфтабудаўнічым заводзе, адным з буйнейшых прадпрыемстваў горада. На пытанні адказвалі першы сакратар гарадскога камітэта партыі і намеснік старшыні выканаўчага камітэта гарадскога Савета, загадчыкі аддзелаў гаркома і гарвыканкома, кіраўнікі раёна, на тэрыторыі якога знаходзіцца [illegible]д, а таксама прадстаўнікі [illegible]іністрацыі прадпрыемства. Што цікавіла рабочых? Пытанняў было безліч і самыя розныя: ці плануецца ствараць у Магілёве маладзёжныя жыллёвыя комплексы, калі будзе закончаны рамонт будынка абласі[illegible] краязнаўчага музея, чаму [illegible] працуюць устаноўленыя на прыпынках аўтобусаў электронныя табло графіка руху, якім чынам горад збіраецца вырашаць праблему забеспячэння кожнай сям'і асобнай кватэрай?..

Апошняе пытанне, бадай, самае актуальнае для Магілёва, таму на ім варта спыніцца больш падрабязна.

## «ЖЫЛЛЁ—2000»

Так называецца праграма, якую Магілёўскі гарадскі Савет народных дэпутатаў прыняў у канцы мінулага года. Яна якраз і ставіць мэту да 2000 года забяспечыць кожную сям'ю асобнай кватэрай ці індывідуальным домам.

У 360-тысячным Магілёве сёння больш за 30 тысяч сямей стаяць у чарзе на атрыманне жылля. Вядома, яны не бяздомныя. Пераважна гэта маладыя сем'і, якія жывуць разам з бацькамі ці ў заводскіх інтэрнатах альбо здымаюць жыллё прыватным чынам. Некаторым жа людзям патрэбны новыя, больш прасторныя кватэры: сям'я вырасла і жыллё стала цеснаватым. Праграма ўлічвае таксама сённяшніх школьнікаў, якія ў будучыні створаць свае сем'і. Такім чынам, за 15 год гораду трэба пабудаваць 100 тысяч кватэр.

Плануецца здаць 20 тысяч кватэр у першым пяцігоддзі, 38 тысяч — у другім і 42 тысячы — у трэцім. Са сродкамі для будаўніцтва, маркуючы па ўсім, дэфіцыту не будзе: у горадзе магутная прамысловасць, якая і заробіць патрэбныя сумы. Цяжэй з самім будаўніцтвам. Каб рэалізаваць праграму, домабудаўнічая індустрыя Магілёва (два трэсты і спецыялізаваны камбінат) павінна падвоіць свае магутнасці. З гэтай мэтай зараз па ходу праводзіцца яе рэканструкцыя і тэхнічнае перааснашчэнне.

Будаўніцтва будзе весціся пераважна ў Задняпроўскай частцы горада. Ужо цяпер там жыве прыкладна трэць насельніцтва Магілёва. Вышынныя дамы рознай павярховасці і разнастайная каляровая гама будынкаў робяць гэты раён не такім сумным і аднастайным, як масівы пяціпавярховых «каробак», што з'явіліся ў Магілёве ў 60-я гады. Сёння іх спрабуюць акультурыць, прыхарашыць. Нешта ўдаецца — вонкавае аздабленне дамоў надае ім трохі весялейшы выгляд.

Больш разумна будавалі ў 70-я гады. На праспектах Шміта, Дзімітрава, вуліцы Габраўскай адмыслова пакідаліся вольныя пляцоўкі. Цяпер будаўнічы камбінат пераходзіць на вытворчасць канструкцый для 12-павярховых дамоў, якія і будуць узводзіцца тут.

Тры гады назад мне давялося быць у Магілёве, і таму магу сказаць, што за гэты час горад, па-мойму, стаў прыгажэйшым. Да таго ж цяперашні мой прыезд супаў з вялікім відовішчным святам — Днямі горада.

Дарэчы, гэтае свята праводзілася ўпершыню (прыклад узялі з іншых гарадоў) і, як гавораць самі магіляўчане, стала сапраўднай падзеяй у жыцці горада. Дзве студэнткі мясцовага музычнага вучылішча прызналіся мне, што яшчэ ніколі ім не было так цікава і весела на вуліцах Магілёва. Сам быў сведкам — весяліўся ўвесь горад...

Але вернемся да праблем.

## ПРЫЯРЫТЭТ— САЦЫЯЛЬНЫМ ПРАГРАМАМ

Амаль дзве гадзіны доўжылася наша гутарка з мэрам горада, 48-гадовым Анатолем Станкевічам. Сёмы год ён узначальвае выканаўчы камітэт гарадскога Савета народных дэпутатаў і сітуацыяй валодае дасканала.

Мэр лічыць, што сённяшнія цяжкасці горада з жыллём, месцамі ў дзіцячых садах і школах, іншыя праблемы сацыяльнага плана — гэта ў многім балячкі мінулых гадоў, калі гаспадарыў так званы тэхнакратычны падыход у размеркаванні сродкаў: спачатку — прамысловасць, а потым усё астатняе. На астатняе ж, як выходзіла, заставалася нямнога.

Гэты прынцып рэзка крытыкаваўся на XXVII з'ездзе Камуністычнай партыі, пасля якога падыход быў карэнным чынам зменены. Цяпер прыярытэт аддаецца сацыяльнай сферы.



**Пушкінскі праспект у Магілёве.**

(Заканчэнне на 4-й стар.).

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

# ЯШЧЭ РАЗ ПРА «БЕЛАГА МЯДЗВЕДЗЯ»

У Мінскім епархіяльным упраўленні госці з-за рубяжа бываюць часта. Вось і ў той дзень у зале пасяджэнняў ішлі апошнія прыгатаванні да адкрыцця V мірнай канферэнцыі хрысціян СССР і Японіі. Устанаўлівалі асвятляльную апаратуру для фота- і кіназдымкі, правяралі тэхніку ў сваіх кабінах спецыялісты сінхроннага перакладу. У залу ўваходзілі ўдзельнікі канферэнцыі: прадстаўнікі рускай Праваслаўнай царквы ў святочным адзенні, большасць з шырокімі барадамі, японскія хрысціяне ў звычайных еўрапейскіх касцюмах, з магнітафонамі і фотаапаратамі, якія сталі неад'емнымі атрыбутамі японцаў, што адпраўляюцца за мяжу.

Сваю канферэнцыю хрысціяне СССР і Японіі пачалі з малітвы. Маліліся аб міры, аб захаванні свяшчэннага дару жыцця на зямлі. Аб гэтым жа гаварылася і ў выступленнях удзельнікаў на працягу пяці дзён пасяджэнняў.

На некаторых дэталях адкрыцця канферэнцыі я спыніўся не выпадкова. Прычынай паслужыла размова з адным з яе ўдзельнікаў, якая нагадала іншыя гутаркі з нашымі суайчыннікамі з розных краін, з іншымі замежнымі гасцямі. Як часта людзі, упершыню прыехаўшы ў нашу краіну, з упэўненасцю ў сваёй праваце даказвалі, што тут няма свабоды сумлення, няма цэркваў, а веруючыя падвяргаюцца ганенням. Смешна глядзець на іх твары пасля таго, як яны, паслухаўшы парады, трапляюць у царкву на богаслужэнне (некалькі прыпынкаў на тралейбусе). На жаль, тых, хто слухае розныя выдумкі аб нашай краіне, значна больш, чым тых, хто можа ўбачыць яе сваімі вачамі.

Сярод гасцей з Японіі адзін чалавек паказаўся мне вельмі знаёмым. І пасля таго, як ён адказаў усмешкай на мой позірк, я пазнаў доктара філасофскіх навук, пастара Аб'яднаных хрысціянскіх цэркваў Японіі Бока Цутыяма. У верасні мінулага года ён прадстаўляў Японію на пасяджэнні Міжнароднага сакратарыята Хрысціянскай мірнай канферэнцыі, якая праходзіла ў Мінску.



— Я здагадваюся, аб чым вы збіраецеся мяне спытаць, — сказаў Бока Цутыяма пры сустрэчы. — Тое, што V мірная канферэнцыя хрысціян СССР і Японіі праходзіць менавіта ў Мінску, было пажаданнем нашага боку. Многія з нас ужо бывалі ў вашым цудоўным горадзе, і мы добра ведаем яго гісторыю. Для нас Мінск з'яўляецца сімвалам супрацьўлення і перамогі над тымі злымі сіламі, супраць якіх сёння выступаюць хрысціяне розных краін. Ваш горад перажыў жудасную вайну, быў разбураны дашчэнту, але сёння стаў адным з прыгажэйшых гарадоў свету і з надзеяй глядзіць у будучыню. Мы добра ведаем, што за работай нашай канферэнцыі сочаць вельмі многія японцы, і калі ў справаздачах аб ёй з'явіцца новае слова «Мінск», ужо адно гэта павінна прынесці карысць у развіцці нашых узаемаадносін. Яшчэ, на жаль, і сёння большасць японцаў не ведаюць пра вашу краіну нічога, акрамя двух слоў — Расія і Масква.

— Якое ж уяўленне пра нас яны маюць? — задаў я натуральнае пытанне.

— Вы ўжо прабачце, — сумна ўсміхнуўся Бока Цутыяма. — Але пакуль што ўяўленне большасці японцаў аб вас не ідзе далей такога паняцця, як «белы мядзведзь». У Японіі многа цудоўных заапаркаў. І ў кожным з іх ёсць вальер з белымі мядзведзямі. Дык вось, калі наведвальнікі глядзяць на іх ці стараюцца пакарміць і прыцягнуць увагу, яны крычаць: «Рускі мішка!», а вельмі часта і проста: «Рускі, рускі!». А з вестак, якія можна было б атрымаць аб вашай краіне, чамусьці ўсім вядома толькі тое, што слова «Масква» мае этымалагічную сувязь са словам «мядзведзь». Адсюль і ўяўленне, што мядзведзі свабодна ходзяць па вашых гарадах і самі людзі да іх падобныя.

Хаця такое прызнанне і не здзівіла мяне, але ўсё ж стала крыўдна за нас, ды і за японцаў. Неяк не ўкладваецца ў галаве, што жыхары краіны, якая займае перадавыя пазіцыі ў эканоміцы і навуцы, могуць у наш час мець такое ўяўленне аб сваіх суседзях. Успомнілася, як нахвальвалі нас розныя заходнія радыёгаласы за ўвядзенне ў краіне публічнасці. Вось, маяўляў, цяпер будзем мець магчымасць больш гаварыць і ведаць аб Савецкім Саюзе. Параўноўвалі яе са сваёй «свабодай слова». Але якая ж, прабачце, «свабода», калі сродкі масавай інфармацыі не могуць расказаць людзям аб краіне, якая займае шостую частку тэрыторыі нашай планеты?

— Неабходна паглыбляць узаемаразуменне і давер'е і адкінуць недавер ва ўзаемаадносінах, — працягваў Бока Цутыяма. — І японцы, і савецкія людзі ветлівыя, дружалюбныя і імкнуцца да міру. Але многія японцы ніколі не бачылі ніводнага савецкага чалавека і таму не маюць правільнага ўяўлення пра вас. Трэба, каб мы больш стваралі магчымасцей для сустрэч. І ў гэтым важная і неабходная місія хрысціян Японіі і Савецкага Саюза — дзеля справы міру. Вярнуўшыся дамоў, усе нашы прадстаўнікі будуць расказваць пра вашу краіну. Я, напрыклад, ужо рыхтую для сваёй паствы выступленне аб незабыўнай паездцы ў Жыровіцкі манастыр у Беларусі на свята ў гонар іконы Жыровіцкай божай маці. Хоць я даўно ўжо ведаю, што ўсе размовы аб нібыта існуючых у вас уцісках веруючых выдумка, але таксама быў узрушаны ўбачанай там карцінай. Столькі тысяч людзей сабралася на малебен і хрэсны ход! Многа цікавага ўбачылі мы і ў вашым штодзённым жыцці. Планіроўка гарадоў, клопат аб дзецях, памяць аб мінулым і многае іншае.

Натуральна, што ў гутарцы мы не маглі не закрануць і галоўнае для ўсіх нас сёння пытанне, дзеля якога і сабраліся ў Мінску ўдзельнікі канферэнцыі. Якія ж канкрэтныя шляхі бачаць хрысціяне Японіі для дасягнення трывалага і стабільнага міру на планеце?

— Трэба адзначыць, што ў нашых поглядах наконт гэтага пытання за апошні час адбыліся змяненні, — сказаў Бока Цутыяма. — У студзені 1984 года на III мірнай канферэнцыі хрысціян СССР і Японіі ў Сочы я прапанаваў дабіцца рэальных вынікаў у раззбраенні. Мы звярталіся да ўрада ЗША з заклікам выкарыстаць сістэму «ўзаемнага аднабаковага стрымлівання». Гэта значыць, каб ЗША ў аднабаковым парадку абвясцілі, што яны не будуць развіваць і размяшчаць новую ядзерную зброю, і калі ўбачаць, што СССР робіць тое ж, то можна будзе і далей скарачаць ядзерныя ўзбраенні. Аднак прапанаванае мной было зроблена не ЗША, а Савецкім Саюзам. І шматлікія мірныя ініцыятывы вашай краіны апошнім часам ясна паказалі ўсім яе шчырае жаданне мацаваць мір на зямлі. У вас ёсць і канкрэтная, цалкам рэальная праграма таго, як гэтага дасягнуць.

**Рыгор ФАМЕНКА.**

**НА ЗДЫМКУ: удзельнікі канферэнцыі на плошчы Перамогі.**

# МАГІЛЁЎ: ПРАЦЯГ ВАРТЫ ПАЧАТКУ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

Бадай што, ні ў адну з пяцігодак у Магілёве не будавалася столькі сацыяльна-культурных аб'ектаў, колькі запланавана на гэтую: бальніцы і паліклінікі, школы і дзіцячыя сады, кінатэатры і спартыўныя комплексы... Бюджэт горада гэтага, зразумела, не вытрымаў бы. Большасць аб'ектаў будзе ўзводзіцца на сродкі прадпрыемстваў.

Я ўжо гаварыў, што Магілёў — буйны індустрыяльны цэнтр. Калі па колькасці насельніцтва ён стаіць на чацвёртым месцы ў рэспубліцы (пасля Мінска, Гомеля і Віцебска), дык па развіццю прамысловасці — на трэцім. Самая развітая галіна — хімічная прамысловасць. Тут знаходзіцца буйнейшае ў Савецкім Саюзе аб'яднанне «Хімвалакно», якое дае больш за 90 працэнтаў усіх вырабляемых у краіне поліэфірных валокнаў. Кожны дзень індустрыя Магілёва выпускае 3 182 электрарухавікі, 45 ліфтаў, 5 робатаў-маніпулятараў, 424 магнітафоны, 7 тысяч пар дзіцячага абутку... Прадукцыя з маркай магілёўскіх прадпрыемстваў адпраўляецца на пяць кантынентаў. Хімікі і машынабудаўнікі падтрымліваюць дзелавыя партнёрскія сувязі з калегамі ў сацыялістычных і заходніх краінах. У Магілёва, дарэчы, чатыры гарады-пабрацімы: польскія Торунь і Влоцлавэк, балгарскі Габрава і французскі Вілербан.

У прамысловасці горада таксама свае праблемы. Большасць прадпрыемстваў мадэрнізуецца, у цэхі прыходзіць новая тэхніка і тэхналогія. Самыя буйныя змены адбываюцца на аўтамабільным заводзе, які выпускае скрэперы, самазвалы павышанай праходнасці і падземныя аўтапаязды. На яго рэканструкцыю выдзелена 113 мільёнаў рублёў. За бліжэйшыя дзесяць год завод не толькі прынцыпова абновіць сваю прадукцыю, але і будзе выпускаць яе ў два разы больш, чым цяпер.

Такімі вось тэмпамі жыве сёння Магілёў. Усе гэтыя намаганні (і ў эканоміцы, і ў сацыяльнай сферы) маюць у рэшце рэшт адну мэту — палепшыць жыццё людзей. Прычым, гаворка ідзе пра якасна новы ўзровень дабрабыту. За тры бліжэйшыя пяцігодкі мяркуецца зрабіць, па сутнасці, столькі, колькі было зроблена за ўсе папярэднія. Мы ставім такую задачу, бо ведаем свае магчымасці. Усё набытае Магілёвам за мінулыя 70 год дае рэальную глебу яго сённяшнім планам.

**Ігар ГЕРМЯНЧУК.**



**НА ЗДЫМКУ: наваселле ў Задняпроўскім мікраёне.**

**Фота С. КРЫЦКАГА і В. КАЖАМЯКІНА.**

*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# ГЭТА ПАВІННЫ ВЕДАЦЬ УСЕ

Паважаныя супрацоўнікі рэдакцыі!

Просім вас змясціць у газеце «Голас Радзімы» нашу шчырую падзяку Беларускаму таварыству «Радзіма» за запрашэнне пабываць у вашым цудоўным горадзе Мінску.

Пасля нашага вяртання дамоў прайшло ўжо шмат часу, але мы ніколі не забудзем вашай гасціннасці, цёплых і сардэчных адносін да нас. Супрацоўнікі Таварыства пастараліся зрабіць усё магчымае, каб за кароткі тэрмін мы змаглі найбольш поўна пазнаёміцца з гісторыяй рэспублікі і сучасным жыццём беларускага народа. Мы ездзілі і гулялі па гораду, хадзілі на канцэрты і ў тэатры і, вядома, штодзённа рабілі экскурсіі па розных славутых мясцінах Мінска і яго ваколіц. Самае вялікае, незабыўнае ўражанне на нас зрабілі тры экскурсіі, звязаныя адной святой для кожнага савецкага чалавека тэмай. Гэта — наведванне Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Кургана Славы і мемарыяльнага комплексу «Хатынь». Колькі смутку і журбы зведалі мы! І адначасова пачуццё гордасці за наш вялікі, мужны народ, за нашу слаўную Радзіму, якая з гонарам прайшла праз такое суровае выпрабаванне. Заўсёды паказвайце гэтыя жалобныя месцы замежным турыстам. Няхай тыя, хто амаль нічога не ведае пра нашу Радзіму, уласнымі вачамі ўбачаць і даведаюцца аб тым, колькі мільёнаў жыццяў каштавала нашаму народу Вялікая Перамога над фашызмам. Няхай і яны зразумеюць, што абавязаны ахвярам савецкага народа, бо толькі дзякуючы ім карычневая чума фашызму не захапіла ўвесь свет. Мы вельмі хочам, каб падобнае не паўтарылася нідзе і ніколі.

На вялікі жаль, далёка не ўсе яшчэ сёння на нашай планеце разумеюць, чым пагражае чалавецтву пажар новай сусветнай вайны. У арсеналах розных дзяржаў назапашана ядзерных узбраенняў столькі, што хопіць, каб знішчыць усё жывое на зямлі некалькі разоў. І наша агульная задача — тлумачыць людзям небяспечнасць ядзернай вайны і заклікаць іх да актыўных дзеянняў у барацьбе за мір.

Яшчэ раз дзякуем вам усім за тыя незабыўныя дні, якія мы правялі ў цудоўным горадзе-героі Мінску. Хочам пажадаць вам усяго добрага, здароўя, бадзёрасці і сіл у вашай высакароднай рабоце, такой неабходнай для нас, суайчыннікаў, якія жывуць удалечыні ад Радзімы.

**Член Брусельскага аддзела Саюза савецкіх грамадзян у Бельгіі Тэма ЗЫБІНА,**

**член аддзела Саюза савецкіх грамадзян у Бельгіі г. Монса Соф'я РУДЗІЧ.**

Бельгія.

## *МНЕНИЕ СОВЕТСКОГО УЧЕНОГО*

# К БЕЗОПАСНОСТИ— ЧЕРЕЗ КОНВЕРСИЮ

### III. ДЕМИЛИТАРИЗАЦИЯ — ЭТО ДОХОДЫ И ЗАНЯТОСТЬ

Любой добросовестный исследователь источников гонки вооружений рано или поздно упирается в суть проблемы: существование и активную борьбу за свои интересы военно-промышленных комплексов ряда ведущих западных держав, прежде всего — ВПК США.

В нашу задачу не входит анализ структуры военно-промышленных комплексов, механизма воздействия их буквально на все стороны жизни государств и народов, начиная от внешней политики и кончая политикой в области знаний, культурой, моралью.

В данный момент нас будут интересовать только некоторые экономические и социальные аспекты, связанные с существованием ВПК сегодня, и перспективами демилитаризации экономики завтра. И еще одно: для простоты картины мы будем говорить о военной экономике только одной страны — США.

Общеизвестно: ВПК — это прежде всего производство новейших вооружений, приносящее колоссальную прибыль корпорациям, занимающимся бизнесом смерти. Цифры год от года меняются, но вот итог: за десятилетие с середины 70-х по середину 80-х годов совокупные прибыли 10 ведущих военных монополий возросли в 6,5 раза. В 1985 году корпорация «Макдонелл-Дуглас», скажем, получила военных заказов на 8,9 миллиарда долларов, «Дженерал дайнэмикс» — на 7,4 миллиарда, «Рокуэл интернэшнл» — на 6,3 миллиарда. Разумеется, неверно преуменьшать заинтересованность в работе на Пентагон и тех корпораций, фирм, лабораторий, что, не относясь к «китам» военного бизнеса, заняты тем же делом. Заказы военного ведомства в США выполняют, напомню, 30 тысяч основных подрядчиков и 150 тысяч средних и мелких компаний.

Многие из них сегодня буквально рвутся поработать на «звездные войны», всерьез поверив, что разработка технологии для этих войн вольет в частный сектор триллионы долларов. Не разобьется ли любая попытка сделать шаг к конверсии о их стремление «делать деньги»?

Безусловно, в прикидках ответа на этот вопрос необходимо учитывать не только экономические аспекты: многое будет определяться конкретными политическими установками федеральной администрации, администрации штатов. Очевидно, для хозяев какой-то части фирм в случае появления конкурентоспособных с военными мирных, альтернативных моделей развития их производства решающими окажутся нравственные начала выбора. Но пока — именно об экономической стороне вопроса.

Начнем с будущего: с предполагаемых сверхдивидентов от работы на «звездные войны». Полагаю, что эйфория на этот счет не затянется, и вот почему. Если всерьез, откуда вообще у страны с двухтриллионным государственным долгом, находящейся, говоря словами «Бизнес уик», «в кредитном загуле», средства на гонку вооружений сегодня? Из внешнего мира, в этом нет тайны: развивающегося (в 1986 году в центры капитализма, и прежде всего в США [illegible]звивающиеся страны по[illegible]ели в виде выплаты основной суммы долга, оттока прибылей от прямых иностранных инвестиций и, наконец, процентов по долгу около 130 миллиардов долларов) — и развитого (за первую половину 80-х С[illegible] переманили на высокую процентную ставку около 300 миллиардов долларов только из Западной Европы). Приращение своих военных расходов США пока полностью покрывают за чужой счет.

Но долго такого рода ситуация сохраниться не может. Это очевидно всякому, кто отдает себе отчет в катастрофичности влияния на капиталистическую экономику, валютно-финансовый механизм как продолжение самой гонки вооружений (с ее гигантским разбазариванием финансовых средств, сырья, людских ресурсов), так и углубления долговой трясины, из которой у должников все меньше шансов выпутаться.

Триллионы на «звездное» самоубийство Америке придется искать в собственном кармане. Тогда-то и станет очевидным то, что сегодня скрыто от глаз рядового американца: жизнь ростовщика — это тоже «жизнь взаймы», она имеет естественные и жесткие ограничения. Определим эту точку как точку отсчета, повод для размышлений номер один.

Но если «вперед» в гонке вооружений означает для тех же США «к финансово-экономическому краху», не разумнее ли вовремя присмотреться к опыту разработки мирных альтернатив, форсировать разработку конкретных моделей конверсии? Такой опыт, кстати сказать, постепенно копится в Западной Европе (известна, скажем, разработанная под свои конкретные параметры модель конверсии британской фирмы «Лукас аэроспейс»). Да и в самих США еще в конце 70-х годов Межнациональной ассоциацией рабочих машиностроительной и аэрокосмической промышленности был разработан проект конверсии, предусматривающий создание (за счет сокращения расходов Пентагона всего на 14 миллиардов долларов) 877 тысяч рабочих мест в год: в отраслях транспорта, использования отходов, применения солнечной энергии. Специальный комитет по подготовке конверсии был создан в начале 80-х на судостроительном заводе в Куинсе, принадлежащем, кстати сказать, «самой» «Дженерал дайнэмикс».

Бесспорно, конверсия не станет делом инопланетян; рассчитывать на то, что одним прекрасным утром все конвейеры смерти окажутся переоборудованными на выпуск мирной продукции, американцам не приходится. Делать и думать — это усилия. При этом заранее ясно, что кому-то остановиться и перестроиться будет проще, кому-то труднее. Будут целые штаты, для которых переориентация исключительно на мирные нужды окажется ребусом: Калифорния, скажем, где еще в 1984 году сумма размещенных военных заказов оценивалась в 40 милли[illegible]в долларов. Но кстати: Кал[illegible]орния, Техас, Вашингтон, Алабама, Массачусетс (это штаты с наиболее солидными контрактами по «звездным войнам») — если вдуматься, не так уж много даже и в самой Ам[illegible]е территорий, благополу[illegible]оторых сегодня зависит в той или иной форме от «военных денег»! Давайте это «открытие без открытия» обозначим поводом для размышления номер два.

И, наконец, последнее. Разумеется, нынешние США — не современный Советский Союз, с его освобождающимся от бюрократических пут, феноменально обостряющимся интересом к голосу каждого человека; мнение работающего у станка, в лаборатории, в компьютерном центре в ведущей стране Запада не имеет прямого выхода на институт принятия решений, не предопределяет выбора «масла вместо пушек». Но поскольку и там, и в ФРГ (где наткнулось на прямой отказ правительства требование Объединения немецких профсоюзов выделить средства на программу обеспечения в стране занятости за счет отказа от производства 320 истребителей-бомбардировщиков «Торнадо»), и в любой другой капиталистической стране с развитой военной экономикой вопрос стоит не только о характере и целях труда многих людей, но и о самой возможности трудиться, напомним: конверсия обеспечивает максимальную занятость.

1 миллион 146 тысяч рабочих мест можно было бы создать в гражданской промышленности, если бы расходы Пентагона в 1981—1984 годах были использованы в гражданских отраслях промышленности,— таков конкретный вывод доклада, подготовленного осенью минувшего года консультативной фирмой «Имплоумент рисерч ассошиэйтс» (США). А вот — пометим их как третий пункт для размышления — данные, приводившиеся на второй Всемирной конференции по социально-экономическим аспектам разоружения (Дублин, май 1986 год). 1 миллиард долларов, вложенный в военное производство, дает 28 тысяч рабочих мест. В производство товаров массового спроса — 57 тысяч. И, наконец, в нужды народного образования — 71 тысячу рабочих мест. Нужны ли к этим цифрам комментарии?

**Александр ЕФРЕМОВ,**
**доктор исторических наук.**

---

## ПОРТРЕТ СОВРЕМЕННИКА

# ЧТО БЕЗ ХАРАКТЕРА ТАЛАНТ

Мы познакомились случайно, но как оказалось, «познакомились на дружбу, на любовь, на жизнь...» Так поется в старинной белорусской песне, которую и спела в программном концерте «моя» Тамара...

Тогда я просто сидела в концертном зале имени Глазунова в Ленинграде, где проходил концерт лауреата Международного конкурса незрячих музыкантов Тамары Томашевич. Это было 16 января 1986 года. И потом, когда мы уже познакомились поближе, мне захотелось, чтобы разные люди — молодые и старые, любящие музыку или вовсе ею не интересующиеся—обязательно узнали о Тамаре, о ее нелегкой, но прекрасной и умной судьбе.

«Умная судьба»... Кому-то это определение может показаться вычурным. Но... по отношению к Тамаре, мне кажется, такое определение к месту. «Что без характера талант? Волны расхлябанные всплески!» А характера, как оказалось, Тамаре не занимать.

Родилась Тамара Томашевич в маленькой белорусской деревеньке Мерчь, которая затерялась среди лесов Шкловского района. До станции более пятидесяти километров.

«Зимой только трактор расчищал от заносов дорогу, ни радио, ни телевидения в годы моего детства в деревне не было... — вспоминает Тамара.—И единственная моя радость в те годы—посиделки. Или вечерки, как у нас говорят. Мама всякий раз брала с собой шитье, вязанье и... меня. Шли мы в большую избу на посиделки. Там чего только не наслушаешься: женщины пели забавные частушки, рассказывали сказки и всякие удивительные истории. А мама моя была первая на деревне частушечница. И вообще семья наша певческая: у отца—красивый бас, у брата—баритон, у маминой сестры—глубокое контральто, голос редкостный. Так и жила я с детства в мире звуков, музыки и сама стала петь. Сначала, конечно, подражая тем и тому, что слышала на посиделках, а потом тому, что слышала по радио. Радио провели в Мерчь в 1952-м году. Особенно любила я одну частушку, которая стала чем-то вроде девиза моей жизни. По-русски она звучит примерно так: «Сколько б я ни плакала—все было одинаково, стала песенки спивать—про все горе забывать!»

А горе-то было, тяжелей, кажется, и не придумаешь: родилась Тамара, как и старший ее брат Иван, незрячей. К кому только не обращались родители—Лидия и Николай Томашевичи! И в Москву детей возили, и к знаменитому Филатову в Одессу. Заключение было горьким: видеть не будут.

Но смириться с незрячей судьбой не захотели ни родители, ни дети! И тут впервые услышала Тамара от отца твердо сказанное слово. Прозвучало оно, как приказ, на всю их с братом Иваном жизнь:

— Вы должны все уметь, знать не меньше, а больше, чем зрячие люди! Вы должны учиться! На печке сидеть и корзины плести—не ваше дело! Без глаз, но с верой в свои способности, с верой в людей—всего добьетесь.

Так сказал Николай Иванович детям и для начала отправил их в школу-интернат для детей с ослабленным зрением, которая открылась под Минском.

Никогда не забудут Иван и Тамара свою первую учительницу Антонину Бородинец. Это она привила вкус к литературе, к слову, к поэзии. Ведь сегодня Тамара и «говорит красно», и стихи сочиняет, и читать любит. Следит за всеми новинками, выпускаемыми Всесоюзным обществом слепых.

Никогда не забудут дети Томашевичей и первого своего учителя пения Евгения Черкасова. Это он угадал, что для Ивана и Тамары музыка станет необходимой, как дыхание, а для Ивана и профессией. Иван Томашевич теперь солист и преподаватель вокала, он окончил музыкально-педагогический факультет Минского педагогического института имени Горького.

А у Тамары еще в детстве открылись невероятные способности, о которых она сегодня рассказывает так: «Знаете, я сама не понимаю, как складывала, умножала и делила трех-, четырех- и пятизначные числа быстро-быстро! На бумаге проверяющие не могли за мной успеть». Сегодня Тамара Томашевич соревнуется со счетными машинами. Она работает программистом-математиком на прославленном Кировском заводе в Ленинграде, в лаборатории сервисных систем.

Вот как угадал отец, что смогут его дети и «...уметь, и мочь больше, чем зрячие», если проявят характер. Ведь все педагоги, с которыми свела Тамару жизнь — и в школе-интернате, и в Ленинградском университете на отделении прикладной математики, куда поступила на общих основаниях, и в лаборатории на Кировском—говорили с восхищением об одном: «Какое удивительное уважение и тяга к знаниям, к образованию, как приятно учить такую ученицу!»

Вот почему и вспомнились мне строки поэта: «Что без характера талант?!»

Когда была я на концерте лауреата Международного конкурса Тамары Томашевич, завоевавшей медаль Шопена в Чехословакии, и голос певицы—глубокое меццо-сопрано—рассказывал о драматической судьбе Ариадны, о трагической любви в шумановском цикле «Любовь и жизнь женщины», о борении смятенной души в «Библейских песнях» Дворжака, а потом прозвучали романсы Чайковского и, наконец, протяжная народная («из детства» Тамары) белорусская песня «Коси, коси,Иван, траву»,—я думала: как же назвать все то, чем живет она сегодня, что делает.

Когда-то мы говорили о физиках и лириках, о втором призвании, спорили, что важнее. А время оказалось и проще, и стремительнее, и мудрее. Пример тому жизнь хотя бы нашей Тамары. Она очень гармоничная. А ведь гармонии такой могло и не быть. Ведь ее нелегко достигнуть и без тех бед, что на пороге жизни обрушились на детей Томашевичей. Значит, опять я о характере, но не только о нем и о таланте, а еще и о людях, которые встретились на их жизненной дороге.

А встретились Ивану и Тамаре в основном люди хорошие, добрые не на словах, а на деле. Они (в прямом и переносном смысле) вели за руку Тамару. Назову немногих: профессор университета Николай Матвеев, концертмейстер Дома культуры имени Шелгунова Юрий Перов, педагог вокала Галина Петрова, руководитель лаборатории на Кировском заводе Эмма Теуш, депутат, прославленная балерина Ирина Колпакова и многие другие люди, сумевшие преодолеть стену недоверия и сложившегося стереотипа. «Не может работать на большом предприятии на равных со зрячими такой человек!» Да, были и такие мнения. Но мужество, упорство и вера в свое призвание поддержали Тамару, как поддержали ее друзья, единомышленники.

Вот почему можно наверняка утверждать, что портрет Тамары Томашевич—певицы и математика-программиста—это и есть типичный портрет советского человека, нашей современницы.

**Галина КАРНАУХОВА.**

*СТВАРАЮЦЦА КААПЕРАТЫЎНЫЯ ВЫДАВЕЦТВЫ*

# НОВАЕ ДЗЕЦІШЧА НОВАГА ЧАСУ

Кааператыўных выдавецтваў пакуль яшчэ няма ў СССР, але іх стварэнне і праекты арганізацыйнай структуры шырока абмяркоўваюцца літаратурнай грамадскасцю.

Што дыктуе неабходнасць іх з'яўлення?

— У эпоху публічнасці,— гаворыць маскоўскі літаратар Юрый Бораў,— сотні пісьменнікаў не павінны заставацца невядомымі толькі таму, што ў выдавецкія планы цяжка прабіцца. Рашаючае слова павінна заставацца за чытачом, а да яго пакуль што нялёгка дабрацца.

«Столица» і «Весть»— такія назвы атрымалі кааператыўныя выдавецтвы, адкрыццё якіх чакаецца ў бліжэйшай будучыні. Вядучыя савецкія празаікі і паэты Васіль Быкаў, Булат Акуджава, Фазіль Іскандэр, Эдуардас Межэлайціс, Давід Самойлаў увайшлі ў ініцыятыўную групу выдавецтва «Весть». Заснавальнікамі «Столицы» сумесна з канкрэтнымі маскоўскімі літаратарамі сталі Маскоўская пісьменніцкая арганізацыя (Маскоўскае аддзяленне Літфонду СССР), Усесаюзнае добраахвотнае таварыства аматараў кнігі, Савецкі фонд культуры.

— Мэта кааператыўнага выдавецтва — хутка выдаваць добрую літаратуру, творы, якія адлюстроўваюць сучасны стан грамадства,— гаворыць вядомы савецкі пісьменнік Веньямін Каверын.

### «ВЕСТЬ»: РЫЗЫКАВАЦЬ З РОЗУМАМ

У выдавецтве «Весть», калі меркаваць па намеру яго заснавальнікаў, задумана ажыццявіць мару пісьменніка аб кемлівым, дзелавым, кампетэнтным пасрэдніку паміж ім і чытачом. Такі пасрэднік не будзе залежаць ад дырэктыў зверху — каардынуючы яго дзейнасць самі пісьменнікі. Большасцю галасоў яны будуць вырашаць, каго і якім тыражом выдаваць.

Кааператыўныя выдавецтвы — з'ява ў СССР не новая. Падобныя выдавецтвы існавалі ў Савецкай краіне ў дваццатыя гады, і дзейнасць іх была вельмі паспяховай. Вось як успамінае аб адным з іх старэйшына літаратурнага цэха Веньямін Каверын:

— Старшынёй праўлення быў Канстанцін Федзін, яго намеснікам я, у праўленне ўваходзілі Міхаіл Зошчанка, Усевалад Іванаў, Мікалай Ціханаў. Мы былі маладыя, энергічныя, і справа ў нас ішла добра. Мы выпускалі кнігі, якія раскупляліся імгненна: Блока, Хлебнікава, Пастэрнака. Друкавалі і маладых пісьменнікаў.

**— Сённяшнюю «Весть» плануецца ствараць па прынцыпу кааператыўных выдавецтваў 20-х гадоў?**

— Натуральна, мы ўлічваем вопыт таго часу. «Весть» ствараецца на грамадскіх пачатках. Пайшчыкам «Вести» зможа стаць кожны савецкі літаратар незалежна ад месца жыхарства. Індывідуальны ўзнос — 500—1 000 рублёў. У штаце мяркуецца мець толькі карэктара, тэхнічнага рэдактара, машыністку, бухгалтара, юрыста.

**— Ці не значыць гэта, што «Весть» у першую чаргу будзе друкаваць тых, хто стане яе заснавальнікамі і пайшчыкамі?**

— Ні ў якім разе. Нашы планы дастаткова шырокія. Дэвіз «Вести»—хутка выдаваць добрую літаратуру—сучасную і класіку. Намечана заснаваць гісторыка-літаратурны раздзел. Думаем друкаваць фантастыку, літаратуру для дзяцей. Новае выдавецтва мае намер зрабіць здабыткам публікі рукапісы яшчэ невядомых аўтараў, падтрымаць маладых пісьменнікаў. Зразумела, мы ў нечым будзем рызыкаваць, але рызыкаваць пастараемся з розумам.

**— Якія выданні пакладуць пачатак жыццю «Вести»?**

— Сваю работу выдавецтва пачне выпускам безганарарнага альманаха «Весть», для якога многія з заснавальнікаў перадалі свае новыя творы. Сродкі, атрыманыя ад гэтага альманаха, таксама лягуць у аснову фінансавай базы новага выдавецтва.

### «СТОЛИЦА»: СУПРАЦЬ УРАЎНІЛАЎКІ

Трыццаць маскоўскіх пісьменнікаў увойдуць у праўленне выдавецтва «Столица», якое тэрмінам на тры гады абяра агульны сход пайшчыкаў. Сярод заснавальнікаў «Столицы» і найбольш актыўных энтузіястаў пісьменніцкай кааперацыі — маскоўскі літаратар Мікалай Воранаў. Яму я і задаў некалькі пытанняў.

**— Заснавальнікамі «Столицы» сталі маскоўскія пісьменнікі і грамадскія арганізацыі. Як размеркаваліся паміж імі ролі? Хто можа стаць пайшчыкам выдавецтва?**

— На гадавых сходах і пасяджэннях праўлення новага выдавецтва Маскоўскаму аддзяленню Літфонду, Усесаюзнаму таварыству аматараў кнігі і Савецкаму фонду культуры будзе належаць 51 голас, індывідуальным пайшчыкам — 49. Кожны член Маскоўскай пісьменніцкай арганізацыі мае права стаць пайшчыкам «Столицы». Паявы ўзнос — ад адной да трох тысяч рублёў.

**— Індывідуальных узносаў хопіць на стварэнне выдавецтва?**

— Беспрацэнтную пазыку на бліжэйшыя пяць год мы, магчыма, атрымаем ад выдавецтва «Советский писатель». Акрамя таго, можна ўзяць беспрацэнтную банкаўскую пазыку. Думаю, Міністэрства фінансаў і Савет Міністраў СССР пойдуць нам насустрач.

**— Выдавецтва «Весть» адмовілася ад паслуг прафесіянальных рэдактараў. А «Столица»?**

— Рэдактарскага корпуса ў яго традыцыйным выглядзе ў «Столицы» таксама не будзе. Рэдактарамі будучых кніг стануць члены праўлення. Размер іх месячных акладаў і дадатковых узнагароджанняў вызначыць сход пайшчыкаў.

**— Што вы думаеце выдаваць?**

— Класіку айчынную і сусветную. Навінкі маскоўскіх пісьменнікаў. Лепшыя творы замежных аўтараў.

**— Чым вы зможаце зацікавіць вядомых аўтараў?**

— Мы выступаем супраць ураўнілаўкі ў аплаце літаратурнай працы. «Столица» разлічвае на прававу́ю незалежнасць ва ўстанаўленні аўтарскага ганарару. Плаціць за прозу думаем ад 200 да 600 рублёў за аўтарскі ліст. За паэзію: ад 2 да 6 рублёў за радок. Першы тыраж для прозы 100 тысяч экземпляраў. Для паэзіі — 25 тысяч.

**— Кнігі з маркай «Столицы» будуць каштаваць даражэй ці танней, чым выданні, што выпускаюцца дзяржаўнымі выдавецтвамі?**

— «Столица» задумана як выдавецтва масавага тыпу, і наша палітыка будзе накіравана на змяншэнне кошту кнігі. Акрамя таго, мы мяркуем выпускаць кнігі і на асабістыя сродкі аўтара. Калі кніга зацікавіць чытачоў, яна будзе выдадзена вялікім тыражом, з аплатай на звычайных умовах.

Кнігі новых выдавецтваў паступяць у продаж як ва ўласныя кааператыўныя магазіны, так і ў дзяржаўны кнігагандаль.

### ЛКІ СУПАДАЮЦЬ, АЛЕ...

Буйныя дзяржаўныя выдавецтвы, мяркуючы па ўсім, не зведваюць трывогі ад з'яўлення канкурэнтаў. У рэспектабельным выдавецтве «Художественная литература», якое спецыялізуецца на класіцы і лепшай сучаснай літаратур[illegible] на просьбу аб інтэрв'ю адгукнуліся адраз[illegible]ыконваючы абавязкі дырэктара Віктар Меншыкаў заявіў, што да стварэння кааператыўных выдавецтваў адносіцца станоўча.

**— Вы зусім не баіцеся канкурэнцыі?**

— Ніколькі. У нас розныя профілі, розныя аб'ёмы работы, розныя тыражы.

**— Але «Столица» мае намер выпускаць кнігі 100-тысячным тыражом...**

— А нашы тыражы даходзяць да паўмільёна, і з рэдкім выключэннем мы не маем праблем са збытам кніг.

**— Хіба яны не могуць пераманіць лепшых аўтараў?**

— Партфелі такіх выдавецтваў, як наша, «Советский писатель» і «Современник», запоўнены на 10—15 год наперад. І потым, як мне здаецца, новыя выдавецтвы маюць намер друкаваць сваіх аўтараў.

**— Стварэнне «Вести» і «Столицы» скажацца, па-вашаму, на стылі работы дзяржаўных выдавецтваў?**

— Не думаю. У нас свой падыход да справы. І мяняць яго мы не плануем...

Тым не менш многія з дзяржаўных выдавецтваў знаходзяцца пад перакрыжаваным агнём крытыкі. Незадаволенасць большасці чытачоў зводзіцца да фразы: кніг — мора, а купіць няма чаго. Літаратары крытыкуюць выдавецкую палітыку са сваёго пункту гледжання: на выпуск кнігі ідзе ў сярэднім тры гады. Перабудова ў выдавецкай справе, на агульную думку, неабходна. І, думаецца, не ад добрага жыцця пісьменнікі закасваюць рукавы, становячыся выдаўцамі. Такія папулярныя літаратары, як Булат Акуджава і Фазіль Іскандэр, горача вітаюць стварэнне кааператыўных выдавецтваў, заснаваных на самакіраванні, хоць, зразумела, яны не так кроўна ў іх зацікаўлены, як малады і малавядомыя пісьменнікі.

— Ці адабраеце вы прынцыпы, на якіх ствараюцца кааператыўныя выдавецтвы? — пытаюся я ў Юрыя Борава.

— Прыцягваюць аператыўнасць, самакіраванне, дэмакратызм арганізацыі. Кааператыўнае выдавецтва павінна быць высокарэнтабельным, а расходы мінімальнымі.

Прамая матэрыяльная залежнасць членаў праўлення ад канчатковага выніку з'явіцца гарантыяй ад групаўшчыны і некампетэнтнасці. Залог поспеху — дэмакратычнасць у рабоце праўлення: рашэнні прымаюцца калегіяльна, і кожны член праўлення мае роўную квоту выдавецкіх магчымасцей. Выбарнасць і пастаяннае абнаўленне праўлення застрахуе выдавецтва ад ператварэння ў сінекуру для людзей, якія маюць карыслівыя мэты.

Мікалай НАЗАРАЎ.

УРОКІ САПРАЎДНАГА МАЙСТЭРСТВА, УРОКІ ЖЫЦЦЯ ПРЫГАДВАЮЦЬ ЯГО ВУЧНІ



# «Я ЎДЗЯЧНЫ ТАБЕ, ПЕСНЯ!»

*ДА 75-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Канстанціна ПАПЛАЎСКАГА*

За пяць кіламетраў ад Івянца на ўскраіне векавой Налібоцкай пушчы размясцілася старажытная вёска Сівіца. Добрыя, чулыя, працавітыя людзі жывуць тут. І здаецца, што самі задуменныя смалістыя [illegible], сярэбразвонныя крыні[illegible] падзяліліся з людзьмі таямніцамі сваіх мудрых песень, натхнілі простыя і шчыры вясковы люд на вялікую любоў да іх. У гэтых песнях гучыць і радасць, і смутак, і с[illegible]эчная цеплыня, у іх раскр[illegible]ецца сялянская душа. І не дзіва, што спрадвеку сівічане вызначаліся моцнымі, прыгожымі галасамі. Гэтая пявучая зямля нарадзіла Канстанціна Паплаўскага — чалавека, якім ганарыцца беларускае народнае песеннае мастацтва, выдатнага беларускага хармайстра, аднаго з заснавальнікаў Дзяржаўнага народнага хору БССР, нястомнага збіральніка і добрага знаўцу беларускай народнай песні, аўтара многіх вакальных і інструментальных твораў, непараўнанага майстра апрацоўкі народных мелодый.

Канстанцін Паплаўскі нарадзіўся 7 чэрвеня 1912 года. Зямлі ў бацькоў было мала, а дзяцей — восем душ. Цяжка было пракарміць вялікую сям'ю, і бацькі біліся, як рыба аб лёд, каб мець кавалак хлеба. Маленькі Косцік рос спакойным, сарамлівым, працавітым. Любіў слухаць, як спяваюць птушкі, булькае вада ў крыніцах і ручайках. Дзівіліся старэйшыя, як Косцік мяняўся, калі слухаў ігру вясковых музыкаў. Ён сціхаў, забыўшыся пра ўсё на свеце, вочы свяціліся шчасцем. Асабліва яго хвалявалі пяшчотныя гукі скрыпкі. Таму і зрабіў сабе хлопчык простую скрыпачку. Іграў на ёй і радаваўся.

Ды бязрадасным было навакольнае жыццё. Ішла імперыялістычная вайна. За тры дзесяткі кіламетраў ад Сівіцы стаяў фронт. Пасля смерці бацькі ў 1920 годзе Кастусь застаўся адзіным мужчынам у хаце. Калі крыху падрос, на яго плечы легла ўся гаспадарка. Толькі музыка была для яго радасцю. У навакольных вёсках ён лічыўся лепшым музыкам, іграў на двухрадцы, скрыпцы, балалайцы.

К. Паплаўскі едзе ў Маладзечна, дзе стаў выхаванцам ваеннага аркестра. А ў 1939 годзе скончыў факультэт капельмайстраў у Катавіцах.

Калі Заходняя Беларусь уз'ядналася з Савецкай, К. Паплаўскі працаваў настаўнікам музыкі і спеваў у школах Маладзечна і Вілейкі. А потым прыйшло ваеннае ліхалецце, якое жорстка апаліла і сям'ю Паплаўскіх: фашысты расстралялі сястру, спалілі родную вёску, бацькоўскую хату.

Пасля Вялікай Айчыннай вайны К. Паплаўскі працягвае сваю музычную адукацыю ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі на харавым і тэарэтычным факультэтах.

«Мяне і Мікалая Ільіча Аладава ўразілі незвычайныя здольнасці абітурыента Паплаўскага,— успамінае заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Мікалай Маслаў.— Абсалютны слых, добрае валоданне фартэпіяна, акардэонам, баянам, скрыпкай, цымбаламі, духавымі інструментамі. Ён мог не толькі лёгка разабрацца ў паслядоўнасці акордаў на працягу вялікага адрэзку, але і запомніць іх. Выдатная музыкальная памяць. Дзякуючы гэтаму, а таксама незвычайнай працаздольнасці, праз да ведаў, Паплаўскі стаў выдатным майстрам нашай народнапесеннай творчасці».

Аднача́сова з заняткамі ў кансерваторыі ён працуе з арганізаваным ім жа ў 1947 годзе дзіцячым хорам Беларускага радыё.

У 1952 годзе К. Паплаўскі разам з Генадзем Цітовічам стварае Дзяржаўны народны хор БССР, з якім звязаны дваццаць тры гады яго жыцця. Ён быў спачатку галоўным хармайстрам, музычным, а пасля мастацкім кіраўніком хору. Ужо на Дэкадзе беларускай літаратуры і мастацтва ў Маскве ў 1955 годзе хор вызначала асаблівая манера выканання, якая мае сваімі вытокамі беларускую народную песеннасць—светлае лірычнае гучанне, мяккая трактоўка твораў, без націску, без рэзкіх кантрастаў.

Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР Міхась Дрынеўскі гаворыць, што «Канстанцін Паплаўскі быў музычным мозгам хору. Паплаўскі і Дзяржаўны народны хор БССР—гэта адзінае цэлае на працягу амаль чвэрці стагоддзя. Ён быў вельмі патрабавальны да інтанацыі, строю, інтэрпрэтацыі твора, быў у добрым сэнсе слова педан-

там. У яго было незвычайнае ўнутранае вакальнае чуццё, ўнутраная культура працы з гукам, з вакалам. Ён дабіваўся ад хору выключна чыстага гучання».

Увесь песенны, аркестравы матэрыял Дзяржаўнага народнага хору БССР на працягу 1952—1975 гадоў быў апрацаваны, аранжыраваны К. Паплаўскім. У залаты фонд беларускага песеннага мастацтва ўвайшлі апрацоўкі К. Паплаўскім беларускіх народных песень «Закаці, закаці ты, яснае сонейка», «Ой, павей, буйны вецярочак», «Туман, туман пры даліне», «Зорка Венера», «Кукавала зязюля ў садочку». І сёння прафесійныя і самадзейныя калектывы выконваюць яго аўтарскія песні, інструментальныя творы, вакальна-харэаграфічныя кампазіцыі «Гуканне вясны», «Дажынкі», цыкл беларускіх вясельных песень і танцаў...

У выступленнях перад самадзейнымі кампазітарамі, хормайстрамі, выканаўцамі—прафесійнымі і самадзейнымі, на занятках са студэнтамі кансерваторыі і проста ў гутарках ён не раз гаварыў пра фальклор, найперш—пра народную песню, яе патрыятычную і сацыяльную, этычную і эстэтычную значнасць для выхавання чалавека. Паплаўскі падкрэсліваў, што не ўсё тое, што ёсць у фальклоры, вартае сцэны. Фальклор на сцэне—«гэта не голы фальклор: не можна выносіць на сцэну ўсё без разбору, выстаўляць народную песню ў аголеным выглядзе. Каб песня стала творам мастацтва, трэба абавязкова выразіць свае адносіны, рупліва дадаць сваё, аўтарскае я». К. Паплаўскі добра ведаў народную песню і ўмеў так яе падаць, так гарманічна аздобіць, так пранікнуць у яе душу, што фальклорная тэма атрымлівала новыя адценні. Многія творы ў яго мастацкай інтэрпрэтацыі былі невялікімі сюжэтнымі сцэнкамі з народнага жыцця, побыту. Ні на адным канцэрце хору на сцэну не выходзіў дырыжор. Кожны выканаўца меў непасрэдны кантакт з гледачом, мог у межах ансамбля паказаць сваю творчую індывідуальнасць.

К. Паплаўскі—вельмі тонкі музыкант, патрабавальны да сябе і да іншых. У музыцы ён не ведаў кампрамісаў. Усё жыццё ён імкнуўся да дасканаласці, жыў музыкай, аддаваў сябе ёй да канца. Кожная рэпетыцыя, выступленне, праца над песняй—была для яго самай галоўнай.

«Лабараторыяй Паплаўскага» справядліва называлі вядомы квартэт «Купалінка», створаны ў 1966 годзе пры Дзяржаўным народным хоры БССР. Без мяккіх, мелядычных, кранаючых душу лірычных песень—песень К. Паплаўскага—не было б цудоўнай, непаўторнай «Купалінкі». «Васемнаццаць гадоў побач з намі быў Канстанцін Іосіфавіч,—успамінаюць спявачкі.—У фанатэцы Беларускага радыё больш за 60 песень у выкананні «Купалінкі», і большасць з іх—яго апрацоўкі. Нашы песні гучалі ў Маскве і Парыжы, Манрэалі і Токіо. І гэта яго праца. На тэлебачанні зняты фільм пра «Купалінку»—і гэта таксама яго талент. Мы і існуём таму, што жыў і працаваў таленавіты музыкант Канстанцін Паплаўскі».

Шчодра аддаваў К. Паплаўскі свой талент мастацкай самадзейнасці, пяць гадоў выкладаў ён у Белдзяржкансерваторыі. За ўрокі сапраўднага майстэрства, урокі жыцця ўдзячны Канстанціну Іосіфавічу ўсе яго вучні.

**Ала САКАЛОЎСКАЯ, кандыдат філалагічных навук.**

**Фота Г. ФРАЛОВА.**

# ДЛЯ ЗАРУБЕЖНЫХ ЧЫТАЧОЎ

Штогод Савецкую Беларусь наведваюць дзесяткі тысяч замежных турыстаў і гасцей. Іх цікавіць літаральна ўсё: і культура, і будаўніцтва, і сацыяльнае забеспячэнне, і лад жыцця. Таму ў рэспубліцы вялікая ўвага ўдзяляецца выпуску кніг і брашур, якія могуць выклікаць цікавасць зарубежных чытачоў.

Так, сёлета выдавецтва «Беларусь» выпусціць на англійскай, французскай, нямецкай і іспанскай мовах шэраг невялікіх па аб'ёму ілюстраваных кніжак пра розныя бакі жыцця беларускага народа.

Вось, напрыклад, кніга «Беларуская ССР: лічбы і факты. 86». Яна для тых, хто цікавіцца эканомікай і культурай рэспублікі, працоўнымі дасягненнямі і жыццём яе народа. У кнізе прыводзяцца асноўныя звесткі, якія характарызуюць сацыяльнае і эканамічнае развіццё ў 1986 годзе.

Да 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі будзе выпушчана кніга «Мая рэспубліка родная». У ёй адлюстраваны дасягненні беларускага народа ў эканамічным, сацыяльным і культурным развіцці за гады Савецкай улады.

«Сацыяльнае забеспячэнне» — так называецца кніга аб створанай у нашай краіне на ленінскіх прынцыпах сістэме сацыяльнага забеспячэння, якая гарантуецца Канстытуцыяй Беларускай ССР.

Расказы майстроў мастацтва Беларусі аб сваім бачанні свету, творчых планах і здзяйсненнях, укладзе ў высакародную справу барацьбы за мір ва ўсім свеце знойдзе чытач у кнізе «Маё слова аб міры».

Уражанні зарубежных гасцей, якія наведалі нашу рэспубліку за апошнія гады, змешчаны ў кнізе «Беларусь вачыма зарубежных гасцей».

Выйдзе з друку некалькі мастацкіх альбомаў на беларускай, рускай і замежных мовах. Сярод іх «Курган Славы» з чорна-белымі і каляровымі фатаграфіямі пра баявыя дзеянні воінаў Савецкай Арміі па вызваленню Беларусі ад фашысцкіх захопнікаў у 1944 годзе і мемарыял, які збудаваны ў іх гонар на 21-м кіламетры Маскоўскай шашы.

Арыгінальныя каляровыя фатаграфіі альбома «Авеяная славай» пазнаёмяць чытача з мемарыяльным комплексам легендарнай Брэсцкай крэпасці, абаронцы якой прынялі на сябе першы ўдар гітлераўскіх захопнікаў.

Альбом каляровых фатаграфій «Мінск» будзе прысвечаны гораду-герою, яго людзям.

На беларускай, рускай, англійскай і французскай мовах падрыхтаваны альбом каляровых і чорна-белых фатаграфій лепшых работ беларускіх майстроў жывапісу, скульптуры, графікі, прысвечаных У. І. Леніну.

Адначасова хочацца нагадаць, што нядаўна выдавецтва «Беларусь» у серыі «Савецкая Беларусь» выпусціла ў свет кнігі «Свабода сумлення», у якой выкрываюцца спробы буржуазных ідэолагаў фальсіфікаваць становішча веруючых у краіне, і ў прыватнасці ў Беларусі; «Мы — савецкія» аб вырашэнні нацыянальнага пытання ў рэспубліцы, інтэрнацыянальным выхаванні працоўных; «Дэпутаты народа» з нарысамі пра дэпутатаў вышэйшага органа дзяржаўнай улады рэспублікі, найбольш дастойных і аўтарытэтных прадстаўніках рабочага класа, калгаснага сялянства і інтэлігенцыі — людзях, якія вызначыліся ў працы, праявілі здольнасці і актыўнасць у грамадскай і дзяржаўнай дзейнасці.

**У. КУЗЬМІЧ.**

*ТАЯМНІЦЫ КНІЖНЫХ СХОВІШЧАЎ*

# ПАМЕТКІ НА ПАЛЯХ

Збор твораў Ф. Скарыны, які захоўваецца ў Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна, па праву лічыцца адным з самых буйных у свеце, а па колькасці экземпляраў (каля 90) найбольш прадстаўнічым. Сёння вядома каля 400 экземпляраў выданняў Ф. Скарыны, у тым ліку каля 240 пражскіх і амаль 160 віленскіх. Усе экземпляры пражскіх выданняў, за выключэннем двухтрох, знаходзяцца ў нашай краіне. З 160 экземпляраў віле[illegible]х выданняў амаль 50 захоўваецца за м[illegible]й (больш за ўсё іх у Каралеўскай бібліятэцы ў Капенгагене, у Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве і ва Універсітэцкай бібліятэцы горада Вроцлава ў Польшчы).

Вось адзін з экземпляраў пражскіх выданняў Ф. Скарыны — «Кнігі царстваў» 1518 года, які захоўва[illegible]а ў бібліятэцы імя Леніна. Запісы на [illegible] гавораць, што кніга актыўна чыталася ў Беларусі, на Украіне і ў Расіі. Найбольш падрабязны і цікавы запіс на ёй зроблены ў XVIII стагоддзі ў Маскве: «по наслецтву от столника Федора Яковлевича Тевяшова сыну его Алексею Федоровичу Тевяшову ж в лето... тысяща седмьсот четыредесять девятого году месяца мая сия ж книга от Алексея Федоровича Тевяшова по наследству досталась сыну его... лейб гвардии Преображенского полку солдату и поныне подписался... подпоручик ему Василью Алексееву сыну Тевяшову я Василей Тевяшов своею рукою тысеща седмьсот шездесят первага году месяца сентября осмаго на десеть дня в царствующем граде Москве». Як бачым, кніга гэта перадавалася з пакалення ў пакаленне, ад бацькі да сына трыма прадстаўнікамі маскоўскага прозвішча Цевяшовых — Фёдарам, Аляксеем, Васілём. А вось уладальніцкі запіс, зроблены на рубяжы XVII і XVIII стагоддзяў у гарадку Століне на Піншчыне, выкананы ён Тэадорам (Фёдарам) Вішнаўскім—паповічам столінскім. Запісы гэтыя неабвержна сведчаць: кнігі Скарыны чыталіся і праз дзвесце і трыста год пасля іх выхаду ў свет, чыталіся не толькі ў Беларусі, але і ў сэрцы Расіі—у самой Маскве.

Віленская друкарня Ф. Скарыны — першая на тэрыторыі нашай краіны—была арганізавана ў самым пачатку 20-х гадоў XVI стагоддзя. Каля 1522 года тут была надрукавана першая айчынная кніга, так званая «Малая падарожная кніжыца»—зборнік для чытання, прызначаны для самага шырокага кола тагачасных чытачоў. Доўгі час наступнае віленскае выданне Ф. Скарыны—«Апостал», які мае дакладную дату выхаду ў свет (1525 год),— лічылі самай першай айчыннай кнігай. Аднак параўнальна нядаўняя знаходка (у 1957 годзе) гаворыць аб іншым. У Каралеўскай бібліятэцы ў Капенгагене быў знойдзены найбольш поўны экземпляр «Малой падарожнай кніжыцы», якая мае пасхалію—своеасаблівы царкоўны каляндар. Першая яго фраза і дата чытаюцца так: «В лето 7031, круг солнцу...», гэта значыць размова ідзе аб 1523 годзе. Такім чынам, было даказана, што «Малая падарожная кніжыца» надрукавана прыкладна за тры гады да «Апостала», каля 1522 года. Менавіта яе з гэтага часу мы лічым першай кнігай, выдадзенай у нашай краіне, а «Апостал» 1525 года — першай дакладна датаванай кнігай, якая ўбачыла свет на тэрыторыі Савецкага Саюза.

Віленскія выданні Ф. Скарыны прадстаўлены ў зборы Ленінскай бібліятэкі асабліва поўна. Усе яны маюць уладальніцкія паметкі і запісы. Цікава, што большасць з іх рускія (вялікарускія), зробленыя ў XVII, XVIII і XIX стагоддзях. Вось, напрыклад, экземпляр «Апостала» 1525 года, уладальнікам якога быў вядомы рускі бібліёграф старадрукарскіх славянскіх кніг Іван Каратаеў. Кніга мае шмат розных рускіх подпісаў — глос XVIII і рускія запісы бытавога характару пачатку XIX стагоддзяў.

Кнігі, выдадзе[illegible] Ф. Скарынам, служылі не толькі для звы[illegible]нага чытання, яны з'яўляліся ўзорамі для наступных славянскіх выданняў. Амаль несумненна, што выданні Ф. Скарыны аказалі ўплыў і на славутага Сымона Буднага, і на Прымуса Трубера, які друкаваў у Германіі кнігі для паўднёвых славян. Па некатор[illegible]ерказаннях, Іван Фёдараў узяў для сва[illegible] выдання «Буквара» ў Львове ў 1574 годзе асобныя тэксты з выданняў Ф. Скарыны. Друкарскія матэрыялы—застаўкі, канцоўкі, ініцыялы з выданняў Францыска Скарыны — доўгі час потым выкарыстоўваліся іншымі выдаўцамі аж да XVII стагоддзя ўключна. Гравюры з выданняў Ф. Скарыны служылі ўзорам для пераймання таксама яшчэ і ў XVII стагоддзі. Кнігі Ф. Скарыны часта перапісвалі — вядома нямала беларускіх, украінскіх і рускіх спісаў, зробленых з іх у XVI і XVII стагоддзях.

Разам з тым магчымы яшчэ і знаходкі новых, невядомых у навуцы экземпляраў выданняў самога Ф. Скарыны. Нават у буйных сховішчах да сённяшняга дня знаходзяць іх фрагменты. Напрыклад, у Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна параўнаўча нядаўна быў выяўлены фрагмент аднаго з пражскіх выданняў Ф. Скарыны, які раней знаходзіўся ў пераплёце старажытнага фаліянта.

**Юрый ЛАБЫНЦАЎ.**

**НА ЗДЫМКУ: фрагмент скарынінскай кнігі «Второй закон» (Прага, 1519), выяўленай у Дзяржаўнай бібліятэцы СССР імя У. І. Леніна.**


ВТОРЫЙ ЗАКОНЪ

# МАСТАЧКА, ДАЧКА МАСТАКОЎ

Упершыню мінчане атрымалі магчымасць пазнаёміцца з такой вялікай экспазіцыяй, якая расказвае аб творчасці выдатнай рускай мастачкі Зінаіды Серабраковай. На выстаўцы, што дэманстравалася ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР, прадстаўлены карціны і малюнкі, якія знаходзіліся раней у розных музеях і прыватных зборах.

Дзяцінства З. Серабраковай прайшло ў двух вядомых сем'ях мастакоў — Бенуа і Лансерэ. Першая выстаўленая ёю работа — аўтапартрэт «За туалетам» — дазволіла крытыцы гаварыць аб моцным і самастойным даравнні. Палатно набыла Траццякоўская галерэя. Серабракова стварае цудоўныя вобразы рускай жанчыны-сялянкі — карціны «Жніво», «Бяленне палатна» занялі дастойнае месца ў шэрагу вышэйшых дасягненняў рускага рэалістычнага жывапісу. Поўныя абаяння яе жаночыя і дзіцячыя партрэты, шматлікія аўтапартрэты.

У 1924 годзе мастачка паехала, як яна спадзявалася, ненадоўга ў Парыж. Так склалася, што Серабракова больш не пабачыла Радзімы, але ў сваім мастацтве засталася глыбока рускім мастаком. Росквіт яе творчасці — гады, пражытыя ў Расіі. Незадоўга да смерці Зінаіда Яўгеньеўна адправіла ў Маскву ў дар свайму народу лепшыя работы.

Мінскі глядач убачыў больш шасцідзесяці твораў З. Серабраковай. Сярод іх славутыя «Аўтапартрэт з пэндзлем», надзіва паэтычныя «Эцюд дзяўчыны», карціна «Дзве сялянскія дзяўчыны», партрэты блізкіх і знаёмых мастачкі, яе дзяцей. Вельмі цікавыя жыццярадасныя пейзажы роднай вёскі, гарачага Марока, не надта ветлівай Францыі. Нямала ў экспазіцыі эскізаў да карцін.

# ГАСТРОЛІ Ў ТАЛІНЕ

Афішы, расклееныя ў Таліне, паведамляюць: у сталіцы Эстоніі ідуць гастролі Беларускага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа. Гэта першае выступленне тут артыстаў вядомага творчага калектыву брацкай рэспублікі.

Гастролі пачаліся паказам трагедыі В. Шэкспіра «Рамэа і Джульета». Яшчэ будуць паказаны «Вечар» па п'есе беларускага пісьменніка А. Дударава, з сучаснай зарубежнай драматургіі камедыя «Будзьце здаровы» П. Шэно і «Гэты палкі закаханы» Н. Саймона. Беларускія сябры выступаюць на сцэне Вядучага ў Эстоніі Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра драмы імя Кінгісепа.

СПАДЧЫНА

# МАГІЛЬНЯНСКІ ЗАМАК

«Краінай замкаў» называлі ў мінулым Беларусь. Амаль праз кожныя 30—40 кіламетраў стаяў замак—пункт абароны. Створаныя руплівай працай народа, гэтыя збудаванні адлюстроўваюць гісторыю і геraічную барацьбу мясцовага насельніцтва супраць ворагаў, з'яўляюцца сведкамі таленту і высокай культуры нашых продкаў.

Магільнянскі замак—адзін з самых старадаўніх на Беларусі. Узведзены ён на мяжы XIII—XIV стагоддзяў. У гэты час ім валодае Вітаўт—вялікі князь літоўскі, у XV стагоддзі—князі Андрэй Уладзіміравіч і яго сын Глеб. Потым замак адышоў да магнацкага роду Пацаў, пазней стаў уласнасцю Радзівілаў.

Замак размяшчаўся на выспе правага берага Нёмана насупраць аднайменнай вёскі (цяпер гэта Узденскі раён). Яшчэ да нядаўняга часу на гэтым месцы, якое сярод мясцовага насельніцтва вядома пад назваю замчышча, меліся прыкметы штучных умацаванняў—валы. У 1975 годзе замчышча было моцна пашкоджана будаўнічымі работамі падчас узвядзення новага моста праз Нёман. Але яшчэ і сёння пры пільным аглядзе можна атрымаць некаторае ўяўленне аб магільнянскім замку.

Пляцоўка памерамі 60 на 110 метраў, на якой знаходзіўся замак, выцягнута ўздоўж ракі, дасягае вышыні ад узроўню ракі каля 2-х метраў. З поўначы ад яе прасочваецца абаронча роў глыбінёю да 1,5 метра. У паўднёвай частцы маецца чатырохвугольнай формы выступ. Хутчэй за ўсё тут размяшчалася вежа. Уваход на замчышча быў з усходу. Да замка вяла брукаваная дарога. У час археалагічнага даследавання на месцы замчышча былі знойдзены кавалкі бітай цэглы, чарапкі глінянага посуду, жалезныя вырабы, пячная кафля. На адным з фрагментаў гэтай кафлі, якая датуецца пачаткам XVI стагоддзя, ёсць выява анёла.

У шэрагу пісьмовых крыніц XVI—XVII стагоддзяў маюцца цікавыя звесткі пра замак. У прыватнасці, у інвентары замка Магільнянскага за 1536 год даецца пералік зброі, якая тут знаходзілася. Напрыклад, называюцца металічныя даспехі («зброя бляховая») на 10 чалавек, рукавіцы, шлёмы, больш як на сотню воінаў, зярцала (умацаванне на кальчугу, якое насілася на грудзях), панцыры, чырвонага колеру плашчы, шчыты. Была ў замку і артылерыя. У прыватнасці, згадваецца пра порах ружэйны і пушачны, называюцца жалезныя гакаўніцы. Апошнія ўяўлялі сабою разнастайнасць агністрэльнай зброі, якая мела спецыяльны крук—«гак», з дапамогаю якога зброя мацавалася да выступу замкавай сцяны, каб паменшыць аддачу ў плячо ў час стралу.

У гэтым жа дакуменце называецца і ваеннаслужачае насельніцтва замка: баяры магільнянскія, слугі панцырныя, слугі валочныя.

На поўнач ад замка стаяў драўляны касцёл і двор уладальніка замка. У дакументах XVI—XVII стагоддзяў даюцца падрабязныя апісанні гэтага двара. Прывядзём скарочаную выпіску з Інвентара маёнтка Магільна за 1592 год.

«Двор Магільнянскі. Пры нім брама вялікая уездная. Увашэдшы той брамай у двор, дом драніцамі крыты. Направа святліца. У той святліцы печ паліваная. Ад таго дому ідучы новая пўніца мураваная. За тою пўніцаю свіран скарбный. У том свірне рэчы рухомыя: келіх срэбны залачоны, аддзежды касцельныя дарагія, сядло аксамітавае чорнае валошскае, нажы у аправах, конаўка срэбная, у якой дзвадцаць грыўнаў срэбра, лыжак срэбных васямнадцаць, скрыня, а ў ёй кніг розных дзесяць. У канцы двара стайня. У той стайні коней вараных шэсць, да коней карых шэсць...»

Зараз у Акадэміі навук БССР плануецца напісанне шматтомнай гісторыі населеных пунктаў Беларусі. Думаецца, што ўвага вучоных не міне і Магільнянскі замак.

Лявон КАЛЯДЗІНСКІ.

**Не адразу знайшоў сваё прызванне Мікалай Несцярэўскі. У маладосці ён сталярнічаў, нядрэнна спяваў, іграў на музычных інструментах, кіраваў хорам у сельскім клубе. Потым былі вучоба ў Маскоўскім тэхналагічным інстытуце і работа на Івянецкай фабрыцы мастацкай керамікі і вышыўкі, дзе ён пераняў у вядомых майстроў сакрэты ганчарнага мастацтва.**

**Дэкаратыўныя кампазіцыі, створаныя Мікалаем Несцярэўскім, упрыгожваюць інтэр'еры многіх грамадскіх будынкаў рэспублікі. Ён адзін з аўтараў дэкаратыўных керамічных пластоў, якімі аформлена станцыя «Плошча Якуба Коласа» мінскага метро.**

**М. Несцярэўскі — адзіны ў рэспубліцы майстар, які стварае керамічныя скульптуры на ганчарным крузе. А ўменне па-майстэрску скарыстоўваць глазуры надае яго работам арыгінальнасць і непаўторнасць.**

**НА ЗДЫМКАХ: Мікалай НЕСЦЯРЭЎСКІ ў майстэрні; дэкаратыўны пласт «Бульба». Тэкст і фота Я. КАЗЮЛІ.**





*РОДНАЕ-БЛІЗКАЕ*

# САЛАЎІНЫЯ НОЧЫ

Далечыня ўсё больш наліваецца блакітам. Там, за лугам, што разамлеў у чэрвеньскай гарачыні,— салаўіны гай, дзе ў гушчары прыціхлі да вячэрняй прахалоды нястомныя начныя спевакі. Падае голас зязюля, нябачны, звініць-пераліваецца ў высокім небе жаваранак, цвенькаюць іншыя птушкі і хутка выдасць першую руладу, спачатку нясмела, выпрабоўваючы голас, потым усё смялей, запявісцей, срэбразвонны салавей...

Яшчэ з мая зазвінеў у гаі вясенні птушыны канцэрт. І з усяго хору выдзяляўся салавей — ён не сціхаў усю ноч, спяваў на золку, раніцай, днём, асабліва мацнеў яго голас увечары, калі свежасцю і прахаладай веяла з луга. І не было ва ўсім гаі роўнага яму спевака.

Маленькая, на першы погляд, нічым непрыкметная птушачка, яна падобна нават да вераб'я. Не знешняй прыгажосцю, а сілай голасу, непаўторнасцю, багаццем і чысцінёй мелодыі заслужыў салавей сваю незвычайную, гучную славу. Колькі вершаў, песень, легенд складзена пра яго ў народзе!

Недасведчаны чалавек скажа, што ўсе салаўі спяваюць аднолькава. Але нават у адным садзе, у адным салаўіным гаі спевакі розныя. А ёсць месцы, дзе яны спяваюць асабліва адмыслова, непаўторна.

У розныя часы славіліся салаўі розных абласцей краіны. Цаніліся курскія, яны і цяпер маюць шырокую славу. Сур'ёзнае саперніцтва ім склалі кіеўскія, чарнігаўскія спевакі. Але ў апошнія гады вучоныя, спецыялісты, аматары і знаўцы салаўінага вакала аднадушна аддаюць пальму першынства беларускім салаўям. Менавіта нашы спевакі асабліва здзіўляюць сваім майстэрствам і багаццем мелодыі: каля двух дзесяткаў гадоў назад у Маскоўскі Крэмль былі завезены і выпушчаны на волю некалькі пар беларускіх салаўёў. Яны выдатна прыжыліся там, уюць гнёзды і выводзяць птушанят — і спяваюць так, як і ў лесе пад Мінскам, у брэсцкім салаўіным гаі... Ніякія салаўі не могуць параўнацца цяпер з беларускімі па звонкасці голасу, па даўжыні гучання кожнай мелодыі, па колькасці кален у ёй: да шаснаццаці варыяцый налічвае тая песня...

Спявае салавей... Сваімі трэлямі, руладамі, галоўнае — нястомнасцю ён прываблівае сяброўку, як тут не пастарацца... Адначасова яго песня азначае: тэрыторыя занятая. Салаўі ніколі не збіраюцца чародамі, не спяваюць разам, яны заўсёды жывуць паасобку, а калі складзецца сям'я — парамі. Таму і песні іх «сольныя». Салавей не любіць, калі хто назірае, сочыць за ім — пераляце ў іншае месца, але спявае бясконца пры любых умовах, і пра сон, і пра харчаванне забывае, толькі ў самую спёку стамляецца, сціхае ненадоўга.

І толькі калі з'яўляюцца на свет маленькія бездапаможныя птушаняты, перастае гучаць дзіўная мелодыя нястомнага спевака: увесь час паглынае клапат пра маладое пакаленне, турботы пра яго харчаванне.

І тут салавей даказвае, што ён не толькі выдатны саліст, але і адмысловы працаўнік. Ён старанна ахоўвае сваю тэрыторыю ад шкоднікаў. Вусені, лічынкі, насякомыя, якія жывуць унізе, на зямлі і ў гушчыні лесу, становяцца яго здабычай.

...Ціхія, светлыя акварэлі ночы размыты святлом месяца. Цёмныя плямы дрэў, густы водар бэзу, цяжкія гронкі якога схіліліся праз плот на вясковую вуліцу... Знаёмыя і быццам чужыя ў няпэўным святле ночы і тым не менш дарагія краявіды. І над усім наваколлем пад бясконцым загадкавым небам — залівістая песня салаўя.

Васіль ФЕРАНЦ.

# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

## БУЛЬБЯНА-МАРКОЎНЫЯ АЛАДКІ

**Абабраную бульбу і моркву (у суадносінах 4:1) нацерці на тарцы. Бульбяную масу змяшаць з маркоўнай, дабавіць яйкі, муку, смятану, пасаліць, старанна перамяшаць, расласці лыжкай на змазаную тлушчам патэльню і смажыць.**

**6—8 штук бульбы, 1—2 морквы, 1—2 яйкі, 2—3 сталовыя лыжкі мукі, 1—2 сталовыя лыжкі смятаны, 3—4 сталовыя лыжкі масла, соль.**

## БУЛЬБА, ТУШАНАЯ З ГАРОХАМ І СВЕЖЫМІ ГРЫБАМІ

**Пачышчаныя і прамытыя свежыя грыбы апарыць варам, нарэзаць і падсмажыць на сале разам з цыбуляй. Гарох замачыць на 1—2 гадзіны. Абабраную бульбу нарэзаць буйнымі кубікамі і абсмажыць. Усё пакласці ў каструлю, заліць вадой, дабавіць соль, лаўровы ліст, перац, пятрушку і тушыць на слабым агні. Гатовую страву пасыпаць дробна насечанай зелянінай.**

**8 штук бульбы, 1/2 шклянкі гароху, 2 цыбуліны, 600 грамаў свежых грыбоў, 100 грамаў сала, зяляніна, спецыі, соль.**

## ЗАКАЛОТА СА СКВАРКАМІ

**Салёнае сала з праслойкай мяса нарэзаць брусочкамі, падсмажыць на патэльні. У міску насыпаць пшанічнай, ячменнай ці грэцкай мукі, зрабіць ямку і, уліваючы пакрысе малако, размяшаць да атрымання паўвадкай аднароднай масы. Затым дабавіць соль, смятану, яйкі, перамяшаць да ўтварэння аднароднай кансістэнцыі і выліць на патэльню са скваркамі.**

**Смажыць на невялікім агні, памешваючы. Асобна падаць бульбяныя, аржаныя бліны, чорны хлеб, бульбу.**

**150 грамаў сала, 2 сталовыя лыжкі малака, 2 сталовыя лыжкі смятаны, 0,3 шклянкі мукі, 2 яйкі, соль.**

# СКАРБЫ З КУФРАЎ

Этнаграфічная выстаўка адкрылася ў павільёне археалагічнага музея «Старажытнае Бярэсце». У экспазіцыі сарочкі, паясы, хусткі, спадніцы, фартухі—больш трохсот прадметаў быту, характэрных для Брэстчыны. Некаторыя з іх вядомы ўсім славянам.

У выставачным комплексе ёсць і традыцыйныя прадметы сялянскага быту—дзяжка для замешвання хлеба, ганчарны посуд, бароны, цапы, кашы і іншае нехітрае начынне. Больш поўна прадстаўлены прылады прадзення і ткацтва.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80; 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 954